ЦАНА 15 кап. 1-шы год выдання

# БЮЛЕТЭНЬ

## Народнага Камісарыята Асветы БССР

*Менск, 15-га красавіка 1935 г.* **№ 6—7**



ЗМЕСТ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

МЕНСК — 1935

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў БССР

### аб новай сетцы раёнаў Беларускай ССР

У мэтах лепшага абслугоўвання працоўнага насельніцтва з боку раённых органаў улады, а таксама для набліжэння раённага кіраўніцтва да вытворчасці ў сельскай гаспадарцы і лепшага кіраўніцтва калгаснай вытворчасцю Цэнтральны выканаўчы Камітэт і Совет народных камісараў БССР п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Стварыць наступныя новыя раёны.

1) **Багушэўскі раён** у складзе наступных 13 сельскіх советаў:

Стайкаўскага, Багушэўскага, Астапенскага, Клюкаўскага, Ледневіцкага—Аршанскага раёна.

Машкоўскага і Замастоцкага Віцебскага раёна.

Застадольеўскага, Новасельскага, Будскага — Сенненскага раёна.

Асінаўскага, Бабінавіцкага, Старабабыльскага — Лёзненскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Багушэўск.

2) **Ветрынскі раён** у складзе наступных 14 сельскіх советаў:

Астроўшчынскага, Шпакоўшчынскага, Нацкага, Літвінавіцкага, Руднянскага, Ветрынскага, Заскорскага, Семянецкага, Тураўлянскага, Вароніцкага, Гомельскага, Гарадоцкага, Бабініцкага, Наўліцкага—Полацкага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Ветрына.

3) **Грэскі раён** у складзе наступных 15 сельскіх советаў:

Гацукоўскага — Уздзенскага раёна.

Пукаўскага, Труханавіцкага, Грозаўскага сельсовета і Грозаўскага нац. яўр с/с—Капыльскага раёна.

Мусіцкага, Грэскага, Першамайскага, Стар'еўскага, Шышацкага Палікарпаўскага і Пакрашаўскага—Слуцкага раёна.

Задашчанскага, Слабодскага і Селецкага—Пухавіцкага раёна.

Шчыткавіцкага — Старадарожскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Грэск.

4) **Добрушскі раён** у складзе наступных 11 сельскіх советаў:

Жгуна-Будскі, Жгунскі, Добрушскі горсовет—Гомельскага раёна.

Кармянскага, Харошаўскага, Гародне-Гомельскага, Крупецкага, Перарастаўскага — Тэрахаўскага раёна.

Марынскага, Дзям'янкаўскага і Ачоса-Руднянскага — Веткаўскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць гор. Добруш.

5) **Даманавіцкі раён** у складзе наступных 18 сельсоветаў:

Азярыцкага, Даманавіцкага, Зеляноцкага, Капліцкага, Крукоўскага, Ліпаўскага, Марцінавіцкага, Новасёлкаўскага, Асташкаўскага, Сухавіцкага, Савіцкага, Холмаўскага, Хоцімскага—Мазырскага раёна.

Валасовіцкага, Давыдаўскага, Кабыльшанскага, Ломавіцкага і Людвінаўскага—Парыцкага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Даманавічы.

6) **Дрыбінскі раён** у складзе наступных 18 сельсоветаў:

Зарэсцянскага, Кароўшчынскага, Гадамльскага, Рабцэўскага, Суслаўскага—Чавускага раёна.

Чарнеўскага, Ждановіцкага, Гаспадаўскага, Кляднявіцкага, Дрыбінскага, Карэбскага, Пакуцянскага, Гарадзецкага, Бельскага, Чурылаўскага—Горацкага раёна.

Рснянскага, Заходскага — Мціслаўскага раёна.

Еганаўскага—Шклоўскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Дрыбін.

7) **Доўскі раён** у складзе наступных 15 сельсоветаў:

Журавіцкага, Балатнянскага—Кармянскага раёна.

Званецкага, Доўскага, Свержанскага, Курганскага і Мала-Стрэлькаўскага — Рагачоўскага раёна

Баханскага, Вяліка-Зімніцкага, Селец-Халапеўскага, Абідавіцкага, Іскамскага і Хатаўнянскага—Быхаўскага раёна.

Ракцянскага і Рагінскага—Прапойскага раёна.

Раённым цэнтрам часова вызначыць м. Журавічы.

8) **Капаткевіцкі раён** у складзе наступных 14 сельсоветаў: Добрыцкага, Галоўчынскага, Камаравіцкага, Капаткевіцкага, Кашэвіцкага, Колкаўскага, Капаткевіцкага местачковага совета, Лучыцкага, Новасёлкаўскага, Пцічскага, Чэлюшавіцкага—Петрыкаўскага раёна.

Бесядскага і Церабаўскага—Мазырскага раёна.

Германа-Слабодскага — Глускага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Капаткевічы.

9) **Кіраўскі раён** у складзе наступных 16 сельсоветаў: Гарадзецкага, Берасневўскага, Баравіцкага, Казуліцкага, Любаніцкага, Капусцінскага, Лешчанскага, Падрэцкага, Старцаўскага, Мышкавіцкага, Харлапавіцкага, Паўлавіцкага—Бабруйскага раёна.

Грыбавецкага — Клічаўскага раёна.

Падсельскага, Чыгірынскага—Быхаўскага раёна.

Асаўніцкага — Рагачоўскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць часова в. Старцы.

10) **Круглянскі раён** у складзе наступных 13 сельсоветаў: Стаінскага, Цяцерынскага, Шапелевіцкага, Сіманавіцкага — Бялыніцкага раёна.

Камсеніцкага і Загаранскага—Шклоўскага раёна.

Ляснянскага, Скуратаўскага, Кручанскага, Мархлеўскага, Круглянскага, Паўлавіцкага і Палескага — Талачынскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Круглае.

11) **Мехаўскі раён** у складзе наступных 15 сельсоветаў: Горкаўскага, Халамерскага, Абаль-

слага, Віраўлянскага, Кузменскага, Зайкаўскага, Межанскага, Паташнянскага, Газбінскага, Руднянскага, Хвашнянскага, Саладухінскага, Пылькінскага, Езерышчанскага і Механскага— Гарадоцкага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць ст. Бычыха.

12) **Рудзенскі раён** у складзе наступных 14 сельсоветаў: Азярышчанскага, Шацкага, Гарэліцкага, Сяргеевіцкага, Цытвянскага, Дудзіцкага, Узлянскага, Рудзенскага, Дрычанскага, Пудзіцка-Слабодскага, Голадскага, Пярэжырскага, Смілавіцкага местачковага совета і Дукорскага—Пухавіцкага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць пас. Рудзенск.

Часова раённы цэнтр размясціць у Смілавічах.

13) **Смалявіцкі раён** у складзе наступных 17 сельсоветаў:

Рудне-Шлягінскага, Хізаўскага, Рэчкаўскага, Ухаўскага, Жэлезніцкага, Рудне-Сталбунскага, Якшынскага, Свяцілаўскага, Неглюбскага, Сталбуноўскага, Янгўскага, Вяліка-Немкаўскага, Мала-Немкаўскага, Балсунскага—Веткаўскага раёна.

Покацкага, Навілаўскага, Бабіцкага—Чэчэрскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Свяцілавічы.

14) **Халопеніцкі раён** у складзе наступных 13 сельсоветаў:

Латыголіцкага, Красналуцкага, Кашчынскага—Лепельскага раёна.

Жартаўскага і Баранскага— Барысаўскага раёна.

Холневіцкага, Грыцкаўскага, Заборскага, Дубаўскага, Узнацкага, Хацюхаўскага, Траяноўскага і Халопеніцкага—Крупскага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Халопенічы.

15) **Хоцімскі раён** у складзе наступных 15 сельсоветаў:

Батаеўскага, Баханоўскага, Бяседавіцкага, Беразкоўскага, Васільеўскага, Дубраўскага, Екацерынапольскага, Ельнянскага, Елавецкага, Ліпаўскага, Тросцінскага, Хоцімскага мест. совета, Чарняўскага — Касцюковіцкага раёна.

Арлоўскага і Забелышанскага —Клімавіцкага раёна.

Раённым цэнтрам вызначыць м. Хоцімск.

2. У адпаведнасці з арт. I гэтай пастановы зацвердзіць наступны спіс раёнаў Беларускай ССР:

1) Асіпавіцкі, 2) Асвейскі, 3) Бабруйскі, 4) Барысаўскі, 5) Бешанковіцкі, 6) Брагінскі, 7) Быхаўскі, 8) Буда-Кашалёўскі, 9) Бягомльскі, 10) Бялыніцкі, 11) Багушэўскі, 12) Бярэзінскі, 13) Веткаўскі, 14) Ветрынскі, 15, Гарадоцкі, 16) Грэскі, 17) Горацкі, 18) Глускі, 19) Дрыбінскі, 20) Доўскі, 21) Дрысенскі, 22) Даманавіцкі, 23) Дубровенскі, 24) Добрушскі, 25) Дзержынскі, 26) Ельскі, 27) Жлобінскі, 28) Жыткавіцкі, 29) Заслаўскі, 30) Кіраўскі, 31) Кармянскі, 32) Камарынскі, 33) Круглянскі, 34) Касцюковіцкі, 35) Капаткевіцкі, 36) Клімавіцкі, 37) Клічаўскі, 38) Капыльскі, 39) Крупскі, 40) Крычаўскі, 41) Лагойскі, 42) Лельчыцкі, 43) Лёзненскі, 44) Лепельскі, 45) Лоеўскі, 46) Любаньскі, 47) Менскі, 48) Магілеўскі, 49) Механскі,

50) Мазырскі, 51) Мсціслаўскі, 52) Нараўлянскі, 53) Парыцкі, 54) Плешчаніцкі, 55) Полацкі, 56) Прапойскі, 57) Пухавіцкі, 58) Петрыкаўскі, 59) Аршанскі, 60) Рагачоўскі, 61) Рудзенскі, 62) Расонскі, 63) Рэчыцкі, 64) Свяцілавіцкі, 65) Сенненскі, 66) Слуцкі, 67) Смалявіцкі, 68) Старобінскі, 69) Суражскі, 70) Стара-Дарожскі, 71) Сіроцінскі, 72) Талачынскі, 73) Тураўскі, 74) Уваравіцкі, 75) Уздзенскі, 76) Ушацкі, 77) Хоцімскі, 78) Хойніцкі, 79) Халопеніцкі, 80) Тераховскі, 81) Чэчэрскі, 82) Чашніцкі, 83) Чавускі, 84) Чырвонапольскі, 85) Чэрвеньскі, 86) Чырвонаслабодскі, 87) Чэрыкаўскі, 88) Шклоўскі.

Гарады: Менск, Віцебск і Гомель з'яўляюцца самастойнымі адміністрацыйна - гаспадарчымі адзінкамі і гарадскія советы гэтых гарадоў падпарадкуюцца непасрэдна прэзідыуму ЦВК БССР і СНК БССР.

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*А. ЧАРВЯКОЎ.*

*Старшыня Совета Народных Камісараў БССР*
*М. ГАЛАД ЕД.*

*Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*М ЛЯЎКОЎ.*

12 лютага 1935 г.
Г. Менск. Дом Урада.

---

# ПАСТАНОВА
## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Совета Народных Камісараў БССР
### аб зменах межаў раёнаў БССР

У дадатак і ў змену пастановы Прэзідыума ЦВК і СНК БССР ад 12 лютага 1935 года (З. З. БССР за 1935 г. № 6, паст. 24)), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Совет Народных Камісараў БССР **пастанаўляюць:**

1. Старэўскі сельскі совет пакінуць у складзе Слуцкага раёна.

2. Рудкоўшчынскі сельскі совет перадаць з Аршанскага раёна Горацкаму раёну.

3. Слабодскі і Задашчанскі сельскія советы пакінуць у складзе Пухавіцкага раёна.

4. Новасёлкаўскі, Вішэўскі і Рафалаўскі сельскія советы перадаць з Магілеўскага раёна Бялыніцкаму раёну.

5. Кабелеўскі і Маладушскі сельскія советы перадаць з Рэчыцкага раёна Хойніцкаму раёну.

6. Перадаць з Рэчыцкага раёна Нахаўскі сельскі совет Мазырскаму раёну і Баравікоўскі сельскі совет Парыцкаму раёну.

7. Заронаўскі сельскі совет Сіроцінскага раёна перадаць Віцебскаму раёну.

8. Бібікаўскі сельскі совет Нараўлянскага раёна і Каменскі сельскі совет Ельскага ра-

ёна перадаваць Мазырскаму раёну.

9. Дзякавіцкі сельскі совет перадаць з Старобінскага раёна Жыткавіцкаму раёну.

10. Доўскі раён перайменаваць у Журавіцкі раён з раённым цэнтрам у м. Журавічы.

11. Забараніць усім РВК да сканчэння сельскагаспадарчых работ 1935 г. узнімаць хадатайніцтвы аб зменах межаў раёнаў БССР.

*Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*А. ЧАРВЯКОЎ.*

*Старшыня Совета Народных Камісараў БССР*
*М. ГАЛАДЗЕД.*

*Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР*
*М. ЛЯЎКОЎ.*

---

## ЗАГАД № 525

## па Народнаму Камісарыяту Асветы БССР

**ад 19/III—935 г. Менск**

**аб падрыхтоўцы школ да новага 1935—1936 навучальнага года**

У мэтах забеспячэння лепшай падрыхтоўкі школ да новага навучальнага 1935—1936 г., своечасовага пачатку заняткаў (1-га верасня) у новым навучальным годзе і стварэння ўсіх неабходных умоў для нармальнай работы школ загадваю:

1. Усім Гар. і РайАНА безадкладна пачаць падрыхтоўку школ да новага навучальнага года. Скласці план падрыхтоўкі школ раёна да новага навучальнага года, да 5/IV давесці план да кожнай школы. Прадставіць план НКА не пазней 15/IV.

2. Асаблівую ўвагу ў падрыхтоўцы да новага навучальнага года неабходна ўдзяліць выкананню плана школьнага будаўніцтва.

Усе будуючыяся школы павінны быць закончаны не пазней як 15/VIII—1935 г., для чаго загадчыкам Гар. і РайАНА неабходна:

а) безадкладна праверыць забяспечанасць кожнага аб'екта будаўнічымі матэрыяламі і прыняць меры, каб усе неабходныя матэрыялы былі завезены, устанавіўшы календарныя тэрміны іх завозу;

б) вызначыць адказнага за сканчэнне будаўніцтва кожнай школы;

в) дабіцца выдзялення неабходных сродкаў на будаўніцтва шляхам скарыстання сродкаў самаабкладання, — арганізацыі шырокай дапамогі шэфаў (прадпрыемствы, соўгасы, і калгасы);

г) устанавіць сістэматычны кантроль за ходам будаўніцтва і рэгулярна інфарміраваць аб гэтым НКА;

д) забяспечыць своечасовае атрыманне фондавых матэрыялаў і скарыстаць усе магчымасці да забеспячэння дэфіцытнымі матэрыяламі будаўніцтва школ з мясцовых рэсурсаў.

3. Безадкладна скласці план рамонта школ з разлікам заканчэння яго не пазней 1/VIII—1935 г. Разам з гэтым прыняць усе меры к таму, каб рамонт быў скончан да 1/VII (дзе ёсць матэрыяльныя магчымасці) з тым, каб забяспечыць водпускі ды-

рэктароў і загадчыкаў школ у летні перыяд. Забяспечыць праз масавую работу прыцягненне грамадскіх сродкаў і ўдзел насельніцтва ў рамонце школ.

Планы капітальнага рамонта школ прадставіць на зацвярджэнне Наркомасветы да 15/IV—1935 г.

Рамонт школьнай мэблі, інвентара, школьных сталовых, інтэрнатаў вытвараць адначасова з рамонтам школьных будынкаў з такім разлікам, каб ён быў зроблен к пачатку летніх канікулаў.

4. Выявіць неаслабанёныя былыя школьныя будынкі, якія заняты іншымі ўстановамі, або прыватнымі жыхарамі і дабіцца іх аслабанення. Матэрыял аб гэтых будынках перадаць урадавай камісіі пры СНК на разгляд.

5. У мэтах ліквідацыі зменнасці заняткаў праверыць па кожнай школе скарыстанне памяшканняў, у неабходных выпадках заняць пад класы так званыя дапаможныя памяшканні (залы, рабочыя пакоі і інш.), давёўшы процант скарыстання школьнай плошчы пад класы да 60—65 проц.

6. Гар. і РайАНА праверыць забеспячэнне школ апалам. Дабіцца поўнага забеспячэння кожнай школы апалам на ўвесь 1935—1936 навучальны год, вывезшы яго да пачатку новага навучальнага года.

Папярэдзіць усіх дырэктароў і загадчыкаў школ, што адказнасць за поўнае забеспячэнне школ апалам ускладаецца ў першую чаргу і персанальна на іх.

7. Гар. і РайАНА намеціць па кожнаму гораду і вёсцы канкрэтны план развіцця школьнай сеткі з разлікам на поўную ліквідацыю 3-й змены і ліквідацыю перагрузкі класаў вучнямі.

8. Адчыненне новых школ у 1935—1936 навучальным годзе праводзіць наступным парадкам: пачатковыя школы — па пастанове райвыканкомаў і горсаветаў, а няпоўныя сярэднія сярэднія і ўзорныя школы па пастанове СНК БССР.

Школы забяспечыць:

а) адпаведным педагагічным персаналам;

б) поўным камплектам мэблі (скамейкі, класныя дошкі, шафы і інш.) і школьным інвентаром;

в) мінімумам абсталявання і навучальных дапаможнікаў;

г) неабходнай колькасцю падручнікаў і кнігамі для вучнёўскай бібліятэкі.

Усім Гар. і РайАНА прыняць усе захады да далейшага разгортвання рускіх школ (адчыненне самастойных рускіх школ, самастойных камплектаў і класаў пры існуючых школах).

9. Загадчыкам Гар. і РайАНА да 15/VI г. г. скласці план абсталявання мэбляй і інвентаром уноў адчыняемых у раёне школ і папаўненнем гэтым абсталяваннем існуючых школ (мэбля, інвентар, абсталяванне для майстэрняў, габінетаў, лабараторый ці школьных бібліятэк, сталовых, інтэрнатаў, бакі для вады, умывальнікі, лямпы, гадзіннікі, аптэчкі і інш.), і на аснове складзенага плана абсталяваць як новыя школы, так і даабсталяваць існуючыя.

У плане абсталявання школ мэбляй прадугледзець замену старых непрыстасаваных парт і класных сталоў з такім разлікам, каб у 1935—36 навучальным годзе школы мелі да 70 проц.

стандартнай мэблі. Новыя парты рабіць выключна па ўзору, зацверджанаму НКА. Парушаючых гэта распараджэнне, прыцягваць да адказнасці.

У кожным раёне арганізаваць майстэрні па вырабу школьнай мэблі.

10) Загадчыкам Гар. і РайАНА не пазней I/IV г. г. здаць заяўкі 'БАКТу і заключыць дагавор:

а) на абсталяванне майстэрняў, рабочых пакояў, габінетаў і лабараторый для ўсіх школ па ўстаноўленаму НКА спісу мінімальнага абсталявання;

б) на забеспячэнне школ навучальнымі дапаможнікамі (геаграфічныя карты, глобусы, табліцы і інш.) і пісьмовымі прыладамі (сшыткі, алоўкі, пёры, чарніла, мел і інш.).

Асаблівую ўвагу звярнуць на абсталяванне ўсіх узорных школ.

Акрамя закупкі абсталявання прыняць меры да вырабу самаробных прылад і інструментаў, дабіцца атрымання абсталявання ад шэфствуючых прадпрыемствах, соўгасаў і калгасаў.

11. Абавязаць загадчыкаў Гар. і РайАНА да 15/IV г. г. у адпаведнасці з кантыгентамі вучняў і з улікам старых падручнікаў, прадставіць Наркомасветы заказы па дасланай форме.

Паставіць перад РВК і горсоветамі пытанне аб вылучэнні на працягу I-га і II-га кварталаў бюджэтных сродкаў на набыццё падручнікаў, вучэбнага абсталявання, наглядных дапаможнікаў і пісьмовых прылад.

Тав. Хмызу даць к 15/VII г. г. паказанні раёнам аб парадку і тэрмінах забеспячэння сродкамі на набыццё падручнікаў, наглядных дапаможнікаў, абсталявання, пісьмовых прылад ад грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў.

Ускласці на заг. Гар. і РайАНА персанальную адказнасць за своечасовы выкуп прыбываючых у культмагі падручнікаў і навучальных прылад. Ускласці на т. Хмыза размеркаванне падручнікаў згодна указанняў НКА і нагляд за своечасовай дастаўкай іх у школы.

Тав. Хмызу забяспечыць да 15/IV г г. поўнасцю завоз падручнікаў у школу, а таксама неабходную норму сшыткаў і пісьмовых прылад, навучальных дапаможнікаў і політэхнічнага абсталявання.

12. НКА абавязвае заг. Гар. і РайАНА, дырэктароў і заг. школ па сканчэнні бягучага навучальнага года забяспечыць зварот вучнямі падручнікаў школе.

НКА катэгарычна папярэджвае дырэктароў і заг. школ аб іх персанальнай адказнасці за ўсе падручнікі, маючыяся ў школе і на руках у вучняў, памятаючы, што школьныя падручнікі з'яўляюцца соцыялістычнай маёмасцю Заг. Гар. і РайАНА наладзіць масавую праверку у школах наяўнасці падручнікаў, парадку іх захавання, прыцягваючы да суровай адказнасці вінаватых у разбазарванні і нядобраякасным захаванні іх.

Агледзець усю маючуюся ў школе мэблю, інвентар, наглядныя дапаможнікі. Праверыць інвентарныя кнігі. Скласці спісы прылад і інструментарыя, патрабуючых замены, рамонту і вырабу ўласнымі сіламі.

13 Абавязаць тав. Хмыза і ДВБ забяспечыць усе школы да I/VIII г. г. класнымі журналамі і інвентарнымі кнігамі.

14. Абавязаць Гар. і РайАНА да 15/V г. г. правесці перагляд школьных раёнаў (тэрыторыя прымацавання да школы) у мэтах удакладнення іх і замацавання за школамі. Да 20/V г. г. правесці ўлік усіх дзяцей, падлягаючых прыёму ў школу ў новым навучальным годзе, з тым, каб на падставе гэтага ўлічыць патрэбнасць у памяшканнях, падручніках, абсталяванні і настаўніках.

Да 15/VIII г. г. закончыць прыём вучняў і да 25/VIII г. г. укамплектаванне школ і асобных класаў і правесці асеннія іспыты.

Дырэктарам, загадчыкам школ і настаўнікам з прыцягненнем грамадскасці шырока інфарміраваць бацькоў аб тэрмінах, парадку прыёму і пачатку заняткаў у школах і забяспечыць поўны і арганізаваны ахоп дзяцей школаю з пачатку новага навучальнага года, ужываючы для гэтага пісьмовыя аб'явы, паведамленні на паседжаннях с/саветаў, праўленняў калгасаў, на сходах і падворны абход.

Яшчэ раз напамінаю заг. Гар. і РайАНА, дырэктарам і заг. школ, што асноўным прынцыпам прыёму ўноў паступаючых у школу дзяцей з'яўляецца родная мова сям'і і жаданне бацькоў.

Забяспечыць усе ўмовы для поўнага ахопу і акуратнага наведвання дзецьмі школьных заняткаў, шляхам арганізацыі інтэрнатаў, гарачых снеданняў, матэрыяльнай дапамогі бяднейшым вучням.

15. У час веснавых канікул праверыць і прывесці ў належны выгляд печы, дымаходы, трубы і ўвесь супроцьпажарны інвентар.

Агарадзіць школьныя двары, сады, гароды, паправіць маючуюся агарожу, азеляніць пляцоўкі перад школьнымі будынкамі, школьныя двары, разбіць цветнікі.

16. У мэтах далейшага ўмацавання матэрыяльнай базы школ абавязаць заг. Гар. і РайАНА, дырэктароў і заг. школ дабіцца забеспячэння зямельнымі ўчасткамі ўсіх школ раёна на падставе інструкцыі НКА і НКЗема.

Дырэктарам і загадчыкам школ скласці вытворчы план на прышкольным участку, узгадніўшы яго з участковым аграномам.

Катэгарычна прапанаваць усім Гар. і РайАНА размеркаваць па школах сродкі, адпушчаныя ў 1934-35 годзе па бюджэту на арганізацыю прышкольных гаспадарак. Дырэктарам і загадчыкам школ рацыянальна выкарыстаць адпушчаныя сродкі і пры перазаключэнні дагавароў школ з калгасамі і соўгасамі дабіцца ад апошніх выдзяленя для школ маладняка (цялят, парасят, кролікаў і інш.).

На падставе існуючых палажэнняў дырэктарам і загадчыкам школ забяспечыць высокаякасную апрацоўку зямлі на прышкольных участках, своечасовы засеў, арганізаваць дагляд за ўраджаем у час летніх канікулаў, забяспечыць своечасовую праполку, уборку, своечасова падрыхтаваць усе памяшканні для хаванняў прадуктаў, якія будуць атрыманы са школьнага зямельнага ўчастка.

17. Абавязаць заг. Гар. і РайАНА перамяшчэнне і замацаванне настаўнікаў за школамі правесці да канца 1934/35 навучальнага года і ніяк не

пазней 15/VI 35 г. Праз дырэктароў і загадчыкаў школ давесці да кожнага настаўніка, дзе ён будзе працаваць у 1935/36 навучальным годзе, у якім класе і якую дысцыпліну ён будзе выкладаць

Катэгарычна папярэдзіць усіх заг. Гар. і РайАНА аб недапушчэнні беспадстаўных перакідак настаўнікаў і неабходнасці самага поўнага абгрунтавання ўсіх звальненняў настаўнікаў.

Упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў і групе кадраў школьнага ўпраўлення размеркаваць выпускнікоў ВНУ і тэхнікумаў да I/V г. г., а выпускнікоў аднагадовых курсаў да I/VII г. г.

Загадчыкам Гар. і РайАНА правесці прызначэнне новых настаўнікаў да 1/VIII г. г.; уноў прызначаным настаўнікам з'явіцца на месца работы 15/VIII.

Групе кадраў школьнага ўпраўлення НКА і Гар. і РайАНА прыняць меры да таго, каб ні адзін дзень у школе не быў сарван з прычыны несвоечасовай яўкі, ці адсутнасці настаўнікаў.

Катэгарычна папярэдзіць усіх заг. Гар. і РайАНА аб недапушчэнні прыёму настаўнікаў без пуцёвак НКА.

Упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў Гар. і РайАНА забяспечыць кіраўніцтва і кантроль за работай аднагадовых педкурсаў. Забяспечыць поўнае выкананне навучальнага плана курсаў і выпуск у тэрміны, вызначаныя НКА. Абавязаць заг. Гар. і РайАНА ўважліва аднесціся да прызначэння маладых настаўнікаў у школы. Маладых, пачынаючых настаўнікаў пачатковых школ, а таксама настаўнікаў, перасоўваемых з пачатковай школы у НСШ, прызначыць у такія школы, дзе яны могуць атрымаць належную дапамогу ў рабоце з боку вопытных кваліфікаванных настаўнікаў. Настаўнікі, скончыўшыя аднагадовыя педкурсы, павінны прызначацца ў шматкамплектовыя школы. Пры прызначэнні ў школы скончыўшых ВНУ, тэхнікумы і курсы, улічваць характарыстыкі, дадзеныя навучальнымі ўстановамі.

Абавязаць дырэктароў ВНУ і тэхнікумаў даслаць на выпускнікоў характарыстыкі ў РайАНА, згодна размеркавання НКА, не пазней I/VII. Заг. Гар. і РайАНА зараз-жа ўстанавіць сувязь з выпускнікамі ВНУ і тэхнікумаў, прызначанымі ў іх раёны, і забяспечыць 100 проц. яўку апошніх у свае р-ны.

Улічваючы ўсю неабходнасць наяўнасці ў школе дырэктара і загадчыка школы на працягу ўсяго навучальнага года, абавязваю заг. Гар. і РайАНА, дырэктароў і загадчыкаў школ арганізаваць работу па рамонту будынкаў з такім разлікам, каб дырэктар і загадчык школы былі зволены ў адпачынак у час летніх канікулаў, але катэгарычна забараняю звальняць у адпачынак дырэктароў і загадчыкаў школ раней, чым будзе праведзена поўная падрыхтоўка школ да новага навучальнага года.

Заг. Гар. і РайАНА да I/V г. г. павінны скласці графік адпускоў дырэктароў і загадчыкаў школ. Спіс дырэктароў і заг. школ, якім не можа быць прадастаўлен адпачынах у час летніх канікулаў, павінен быць зацверджан прэзідыумам РВК і дасланы НКА не пазней 15/V—1935 г.

Абавязаць Гар. і РайАНА

праявіць максімум увагі матэрыяльна-бытавым умовам настаўнікаў: падрыхтоўка і рамонт кватэры забеспячэнне апалам, асвятленнем, прадуктамі харчавання, своечасовай выплатай зарплаты, забеспячэнне індывідуальнымі гародамі, дапамогай у набыцці кароў, свіней, сана торна-курортным абслугоўваннем.

Асаблівую ўвагу звярнуць на арганізацыю падвозу хлеба для настаўнікаў у тых сельскіх пунктах, дзе няма хлебапякарняў.

18. Упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў і Інстытуту павышэння кваліфікацыі кадраў народнай асветы да 15/IV давесці да кожнага Гар. і РайАНА планы і паказанні па павышэнню кваліфікацыі настаўнікаў.

Планава-фінансаваму аддзелу НКА забяспечыць неабходнымі асігнаваннямі правядзенне курсавых мерапрыемстваў, вызначаных па плану на 1935 год.

Абавязаць т. Башкевіча да 15/IV узяць на ўлік лектарскі састаў, які можа быць выкарыстан на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Для забеспячэння курсаў па гісторыі, мовах і літаратуры высокакваліфікаванымі выкладчыкамі запрасіць з Масквы і Ленінграда адпаведных спецыялістаў, з якімі заключыць дагавары не пазней 1/V.

Абавязаць дырэктароў undefinedпедінстытутаў і тэхнікумаў прадаставіць у распараджэнне курсаў неабходную колькасць падручнікаў, бібліятэкі, габінеты, лабараторыі, аудыторыі, інтэрнаты і сталоўкі ў мэтах забеспячэння нармальнай і бесперабойнай работы курсаў.

Абавязаць загадчыкаў Гар. і РайАНА забяспечыць раённыя курсы неабходнай колькасцю падручнікаў і навучальнымі дапаможнікамі за кошт СШ і НСШ свайго раёна.

Даручыць т. Хмызу своечасова забяспечыць курсы сшыткамі, папераю і інш. пісьмовымі прыладамі.

Упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў і Інстытуту павышэння кваліфікацыі з I/VI да I/VII г. г. правесці масавую праверку падрыхтоўкі курсаў да заняткаў. Дабіцца ў гэтым годзе карэннага палепшання вучэбнай работы курсаў, забяспечыўшы належнае кіраўніцтва і кантроль за іх работай.

Катэгарычна папярэдзіць заг. Гар. і РайАНА аб абавязковым выкананні развёрсткі НКА на ўсе курсавыя мерапрыемствы і своечасовасці пасылкі вылучаных на курсы настаўнікаў.

19. Па завочнаму навучанню настаўнікаў правесці наступнае:

а) У сувязі з разбуйненнем раёнаў т. Башкевічу і т. Слаўковічу пераглядзець раёнаванне сеці завочных сектароў педінстытутаў і педтэхнікумаў.

б) Да I/IV г. г. даць кожнаму Гар. і РайАНА кантрольную лічбу набору завочнікаў на 1935—36 навучальны год

в) Тав. Башкевічу да новага навучальнага года забяспечыць своечасовае ўкамплектаванне завочных сектароў кіруючымі работнікамі, высоўваючы на гэту работу свядомых і кваліфікаваных педагогаў.

г) Тав. Слаўковічу разгарнуць работу па ахопу настаўнікаў завочным навучаннем на 1935/36 навучальны год у адпаведнасці з кантыгентамі, устаноўленымі НКА. Абавязаць заг. Гар. і РайАНА не пазней 5/IV г. г. арганізаваць падрыхтоўчыя за-

няткі да прыёмных іспытаў з настаўнікамі, падлягаючымі ахопу завочным навучаннем, шляхам прымацавання іх да кансультацыйных пунктаў педтэхнікумаў і асобных школ, а ў перыяд веснавых канікулаў правесці з імі спецыяльныя шасцідзённыя курсы.

20. Па пазашкольнай рабоце з дзецьмі правесці наступнае:

а) Заг. Гар. і РайАНА поўнасцю выканаць кантрольныя лічбы НКА па арганізацыі летніх аздаравіцельных пляцовак пры школах, скарыстоўваючы як бюджэтныя асігнаванні на гэту мэту, так і прыцягненне сродкаў грамадскасці.

а) Забяспечыць гатоўнасць усіх пазашкольных устаноў (ДТС, дзіцячыя клубы, дзіцячыя бібліятэкі і т. д.) да абслугоўвання дзяцей к пачатку новага навучальнага года, закончыць рамонт памяшканняў, забяспечыць апалам і абсталяваннем.

в) Загадчыкам Гар. і РайАНА сумесна з профарганізацыямі распрацаваць план скарыстання клубаў, дамоў соц. культуры, хат-чытален для арганізацыі пазашкольнай работы з вучнямі.

г) Абсталяваць пры кожнай школе спортпляцоўкі, належным чынам абсталяваць іх, укамплектаваць школьныя бібліятэкі адпаведнай літаратурай, набыць музычныя інструменты і інш. прылады для культмасавай работы.

д) Віцебскаму Дому мастацкага выхавання распрацаваць канкрэтны план па мастацкаму абслугоўванню школьнікаў гор. Віцебска і арганізацыі мастацкай работы непасрэдна ў школе.

е) Тэатру юнага гледача пашырыць сваю дзейнасць на перыферыі, дабіцца максімальнага ахопу школьнікаў спектаклямі. Для забеспячэння абслугоўвання тэатрам непасрэдна школ арганізаваць пры ТЮГ групу кукальнага тэатра.

ж) Правесці ў жніўні месяцы 10-дзённыя курсы-семінары на 50 чал. настаўнікаў па пытанню пастаноўкі выхаваўчай работы ў школе.

Школьнаму ўпраўленню забяспечыць курсы навучальнымі планамі, праграмамі і кіраўнікамі.

з) Упраўленню мастацтва сумесна з групай пазашкольнай работы да 15/VII г. г. распрацаваць канкрэтны план абслугоўвання школ тэатрамі, канцэртамі, выкарыстоўваючы для гэтай мэты сілы кансерваторыі, музтэхнікумаў і музшкол, а таксама мастацкай самадзейнасці.

і) Загадчыкам Гар. і РайАНА распрацаваць канкрэтны план абслугоўвання дзяцей кіно, тэатрамі і кіно-перасоўкамі.

21. Па вучэбна-метадычнай і выхаваўчай рабоце:

а) Абавязаць ДВБ выдаць да пачатку навучальнага года намечаную па плану метадычную і дзіцячую літаратуру.

б) Праграмна-метадычнай групе на падставе вопыту гэтага навучальнага года даць паказанні аб складанні планаў выхаваўчай работы ў школе. Даць школам прыкладны план гэтай работы.

в) Абавязаць дырэктараў і загадчыкаў школ, загадчыкаў навучальных частак пасля звароту настаўнікаў з водпуску скласці і зацвердзіць: гадавы

вытворчы план школы на 1935—1936 навучальны год, поўгадавы план вучэбна выхаваўчай работы школы і кожнага настаўніка паасобку, расклад заняткаў.

22. Абавязаць Гар. і РайАНА, дырэктароў і заг. школ забяспечыць высокаякасную падрыхтоўку школ да новага навучальнага года шляхам штодзённай глыбокай сістэматычнай работы, не дапускаючы ператварэння гэтай работы ў кампанію.

Да ўдзелу ў падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года мабілізаваць шырокую грамадскасць, у першую чаргу культсекцыі горсоветаў, с/советаў, дэпутацкія групы, культмасавыя камісіі калгасаў, школьныя камсоды.

Асаблівую ўвагу звярнуць на разгортванне ў гэты час работы камісіі садзейнічання пры школах. На працягу красавіка правесці ў раёнах і гарадах канферэнцыі актыва камсодаў па пытанню абмену вопытам работы і чарговымі задачамі ў сувязі з падрыхтоўкай школы да новага навучальнага года.

23. Гар і РайАНА забяспечыць штодзённы кантроль і аперацыйнае кіраўніцтва падрыхтоўкай школ да новага навучальнага года, звярнуўшы асаблівую ўвагу на ўзорныя, нацыянальныя, чыгуначныя школы і школы пры соўгасах.

Кожная школа павінна быць прынята спецыяльнай камісіяй, якая складае адпаведны акт. Прыём школ камісіяй правесці з 15/VIII па 25/VIII г. г.

24 Абавязаць заг. Гар. і РайАНА штомесячна (15/VI, 15/VII і 15/VIII) інфарміраваць НКА аб ходзе падрыхтоўкі школ да новага навучальнага года па форме, устаноўленай ЦУНХУ.

25. Даручыць Школьнаму ўпраўленню правесці ў жніўні месяцы нараду інструктароў-метадыстаў па пытанню разгортвання вучэбнай і выхаваўчай работы школ у 1935—36 навучальным годзе.

26. Звяртаю ўвагу ўсіх загадчыкаў Гар. і РайАНА, дырэктароў і загадчыкаў школ, настаўніцтва, што справа падрыхтоўкі школ да новага навучальнага года з'яўляецца важнейшай палітычнай задачай, ад паспяховай рэалізацыі якой залежыць якасць работы школы ў новым навучальным годзе. Гэта патрабуе ад усіх работнікаў НКА, Гар. і РайАНА кіраўніцтва школ і настаўніцтва асаблівай мабілізаванасці і напружаных тэмпаў.

27. Усю падрыхтоўчую работу да новага навучальнага года праводзіць шляхам шырокага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва паміж раённымі аддзеламі нарасветы, дырэктарамі і загадчыкамі школ.

Разгарнуць шырокую масавую работу ў культсекцыях с/советаў па ўцягненню апошніх у максімальную дапамогу па падрыхтоўцы да новага навучальнага года і разгортванню паміж імі соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў гэтым напрамку.

*Народны камісар Асветы БССР*

*Чарчушэвіч.*

# ВЫМЕРНІКІ

## па народнай асвеце па мясцоваму бюджэту на 1935 год

### 1. Па дашкольных установах

**На дзіцячыя сады:**
(датацыя адной групе)

а) Па гор. Менску . . 7750 р.
б) Па Віцебску і Гомелю . . . . . . . 7250 „
в) Па Оршы, Бабруйску, Магілеву, Полацку, Барысаву, Рэчыцы і Мозыру . 6750 „
г) Па раёнах: Бягомльскаму, Ветрынскаму, Грэскаму, Даманавіцкаму, Дзержынскаму Дрысенскаму, Жыткавіцкаму, Заслаўскаму, Капаткевіцкаму, Капыльскаму, Лагойскаму, Лельчыцкаму, Лепельскаму, Любаньскаму, Менскаму, Плешчаніцкаму, Петрыкаўскаму, Расонскаму, Слуцкаму, Старобінскаму, Тураўскаму, Узденскаму, Ушацкаму, Чырвонаслабодскаму, Нараўлянскаму, Ельскаму, Жлобінскаму, Быхаўскаму, Крычаўскаму і Рагачоўскаму . . . . 6150 „
д) Па астатніх раёнах 5950 „
е) На групы ў калгасах . . . . . . . . . 2000 „
ж) На сад-прымітыў . 700 „
з) На пляцоўку . . . 300 „

Практыкавальным садам даецца 50 проц., а ўзорным 25 проц. на зарплату выхавацельскаму персаналу.

**Увага:** Прадугледжаная датацыя на групу ідзе ў першую чаргу на аплату зарплаты работнікам дашкольных устаноў і толькі астатнія сумы на іншыя выдаткі.

### 2. Па пачатковых школах і класах (1—4)

а) Зарплата вылічваецца па стаўках, прадугледжаных ген. дагаворам 1934 г. паміж НКА і ЦП Саюза і ўзгодненых з НКФ, з разліку адной стаўкі за 24 гадзіны працы настаўніка ў тыдзень. Выходзячы з гэтага, кіруючыся навучальным планам, устанаўліваецца:

Для аднакамплектнай школы— $1^1/_4$ аклада.

Для двухкамплектнай школы— $2^1/_4$ аклада.

Для трохкамплектнай школы— $3^1/_2$ аклада.

Для чатырохкамплектнай школы—$4^1/_2$ аклада.

**Увага:** Надбаўка ў сувязі з адменай картачнай сістэмы на хлеб улічваецца адпаведна загада НКА за № 64 для 1-га спіса 13 руб. 50 кап. і другога спіса 10 руб. на кожную фізічн. асобу.

б) Ставак тэхперсанала даецца:

У аднакамплектнай школе— $^1/_3$ стаўкі тэхпрацаўніка.

У двухкамплектнай школе— $^1/_2$ стаўкі тэхпрацаўніка

У 3-х і чатырохкамплектнай школе—1 стаўка тэхпрацаўніка.

в) Прэміяльны фонд вылічваецца ў размеры 2 проц. ад зарплаты педагічнага персанала і 1 проц. ад зарплаты адміністрац. персанала

г) За выслугу год выплачваецца згодна пастановы СНК, апублікаванай у зборніку законаў БССР за 1929 год № 41.

д) Кватэрныя настаўнікам

выплачваюцца згодна пастановы СНК БССР ад 30 жніўня 1928 г.

е) Адміністрацыйна - гаспадарчыя, вучэбныя і іншыя выдаткі вылічваюцца на 1 кампл. па наступных нормах:

| Назва выдаткаў | На адзін год | | |
|---|---|---|---|
| | Менск, Віцебск, Гомель, Орша, Бабруйск, Магілеў, Полацк, Барысаў, Рэчыца, Мазыр і раёны, адзначаныя ў пачатку вымернікаў у раздзеле „Дашкольныя ўстановы" гр. „г" | Іншыя раёны | На новыя камплекты за час верасень, снежань 1935 г. |
| Арт. 2 а) адм. гасп. выдаткі | 175 | 150 | 50 |
| Арт. 5 с) набыццё інвентара на новыя камплекты | — | — | 400 |
| „ 5 в) Папаўненне інвентара | 30 | 30 | — |
| Арт. 6 Пісьмовыя прылады, папаўненне бібліятэк, наглядныя дапаможнікі, на політэхн. абсталяванне і падручнікі | 300 | 250 | 125 |
| Арт. 7. Матэрыяльнае забеспяч. вучняў | 45 | 45 | — |

### 3. Па няпоўных сярэдніх і сярэдніх школах

Зарплата вылічваецца па стаўках 1934 г., пры тым стаўка ўстанаўліваецца за 18 тыднёвых гадзін работы настаўнікаў 5—7 класаў і за 480 гадз. у год у 8—10 класаў сярэдняй школы.

**Колькасць педагагічных ставак вылічваецца**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Для падрыхтоўчых класаў | 1 педстаўка | | Стаўкі настаўнікаў пачатковых школ |
| „ 1-га класа | 1 | „ | |
| „ 2-га класа | 1 | „ | |
| „ 3-га класа | $1^1/_4$ | „ | |
| „ 4-га класа | $1^1/_4$ | „ | |
| Для 5-га класа | 2,06 | „ | Стаўкі настаўнікаў няпоўнай сярэдняй школы |
| „ 6-га „ | 2,06 | „ | |
| „ 7-га „ | 2,06 | „ | |
| Для 8-га „ | 3,4 | „ | Стаўкі настаўнікаў тэхнікума і рабфака |
| „ 9-га „ | 3,4 | „ | |
| „ 10-га „ | 3,4 | „ | |

**Увага:** а) У школах нацменшасцей на выкладанне рускай мовы дадаецца, апрача пачатковых класаў, у класах 5—10 па 2 гадзіны ў тыдзень пры сямідзёнцы, а таксама і па 2 гадзіны па шасцідзёнцы.

б) Прэміяльны фонд вылічваецца ў 2 проц. ад зарплаты педперсанала і 1 проц. ад зарплаты адміністрацыйна-тэхнічнага персанала.

г) Настаўнікам узорных школ і іх намеснікам павялічваецца зарплата на 25 проц., а настаўнікам вопытных школ на 50 проц.

д) За выслугу год выплачваецца згодна пастановы СНК, апублікаванай у зборніку законаў БССР за 1929 г.

е) Кватэрныя настаўнікам выплачваюцца ў размеры 10 проц. ад асноўнай зарплаты, згодна пастановы СНК БССР ад 30-га жніўня 1928 года.

**Штат няпоўнай і поўнай сярэдняй школы:**

| | Сярэдн. шк. | | Н. С. Ш. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1—10 кл. | 1—8 і 9 кл. | 1—7 ці 0—7 | 0—6 ці 1—6 | 0—5 ці 1—5 |
| Дырэктар школы . . . . . . . . | 1 | 1 | 1 | 0,75 | 0,5 |
| Загадчык навуч. часткі . . . . . | 1 | 1,075 | 0,5 | — | — |
| Заг. габінетаў . . . . . . . . . | 0,5 | $^3/_8$ | $^3/_8$ | — | — |
| Заг. бібліятэкі . . . . . . . . . | 1 | $^3/_4$ | $^1/_4$ | — | — |
| Піонерпрацаўнік . . . . . . . . | 1 | 1 | 1 | 0,75 | 0,5 |
| Справавод-рахункавод . . . . . | 1 | 1 | 1 | 0,75 | 0,5 |
| Тэхпрацаўнікоў (апрача гарадоў Менск, Віцебск, Гомель) . . | 3 | 3 | 2,5 | 2 | 1,5 |

**Увага:** а) У школах звыш 20 класаў устанаўліваецца пасада намесніка заг. па гаспадарчай частцы.

б) У гарадскіх НСШ замест $^1/_4$ аклада бібліятэкара вызначаецца $^1/_2$ стаўкі бібліятэкара.

в) На класных кіраўнікоў выдаецца ў гарадах і раённых цэнтрах, а таксама ва ўсіх узорных школах для класаў 5—10 па 15 руб. у месяц на клас.

г) Бібліятэкары і загадчыкі габінетаў аплачваюцца толькі ў тых школах, дзе ёсць габінеты ці бібліятэкі.

д) Загадчыкі габінетаў аплачваюцца, выходзячы з стаўкі настаўніка НСШ, па вызначанаму для яго разраду як настаўніка.

е) Бібліятэкары аплачваюцца па дыферэнцыяванай аплаце, устаноўленай НКА і ЦП Саюза працасветы ў 1934 г. для бібліятэкараў.

ж) Хлебная надбаўка выдаецца згодна загада НКАсветы: па 1-му спісу па 13 р. 50 кап. і па 2-му спісу 10 руб. у м-ц, пачынаючы выплату з 1-га студзеня 1935 г.

з) Па новых раёнах стаўкі зарплаты і інш. выдаткі захоўваюцца існаваўшыя для кожнага асобнага с/с да рэарганізацыі новых раёнаў.

і) У кожнай С. Ш. вызначаецца замест стаўкі справавода стаўка рахункавода.

## Адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі, вучэбныя, політэхнічныя і іншыя выдаткі вылічваюцца па наступных нормах

| Назва выдаткаў | На адзін клас на год | | |
|---|---|---|---|
| | Віцебск, Менск, Гомель, Орша, Бабруйск, Магілеў, Полацк, Барысаў, Рэчыца, Мазыр і раёны, пералічаныя ў пачатку вымернікаў у раздзеле „Дашкольныя ўстановы“ гр. „г“ | Іншыя раёны | На новыя камплекты за час верасень, снежань 1935 г. |
| Арт. 2 а) Адм. гасп. выдаткі . | 225 | 190 | 90 |
| „ 5. Абсталяванне груп (папаўненне і інвентар) . . . . . . . . | 30 | 30 | 400 |
| „ 6. Пісьмовыя прылады, папаўненне бібліятэк, наглядныя дапаможнікі, політэхнічнае абсталяванне і падручнікі: | | | |
| а) Для пачатковых класаў . . . . . . . . | 300 | 250 | 125 |
| б) Для класаў НШС і СШ 5—10 . . . . | 480 | 400 | 220 |
| Арт. 7. Матэрыяльнае забеспячэнне вучняў: | | | |
| а) Для пачатковых класаў . . . . . . . . . . | 45 | 45 | — |
| б) Для няпоўна-сярэдніх і сярэдніх школ, класаў 5—10 . . . | 90 | 90 | — |

**Увага:** 1. Утрыманне інтэрнатаў і нац. стыпендыі праводзіцца па арт 7а.
2. Папаўненне майстэрань, габінетаў і бібліятэк праводзіцца па арт. 6.
3. Рамонт праводзіцца за кошт аперацыйных выдаткаў па ар. 2.
4. Узорным школам усе выдаткі ў параўнанні са звычайнымі школамі павялічваюцца на 25 проц., а вопытна-практыкаваным на 50 проц., за выключэннем аплаты тэхканцэлярскага персанала.

### 4. Дзіцячыя дамы

а) Стаўкі захоўваюцца існуючыя і павялічваюцца толькі на розніцу з 1-га студзеня ў сувязі з адменай картачнай сістэмы па тых-жа прынцыпах, што і настаўнікам.

б) Норма на аднаго выхаванца ў год.

Арт. 2. Адм. гаспадарчыя выдаткі—40 руб.

Арт. 5. На набыццё інвентара:

а) вопратка і бялізна—120 руб.

б) адначасова на набыццё інвентара—13 руб.

Арт. 6. Спец. аперацыйныя выдаткі:

а) вучэбныя прылады і папаўненне бібліятэк—5 руб.

б) харчаванне, уключаючы і хлебную надбаўку—640 руб Дапамога выбываючым дзецям—120 руб.

### 5. Ліквідацыя малапісьменнасці

Улічваючы, што школа працуе праз дзень па 4 гадзіны ў дзень у гарадах да 1-га чэрвеня, а ў вясковых мясцовасцях да 1-га мая, аплата настаўнікаў для малапісьменных устанаўліваецца ў размеры паловы аклада настаўніка пачатковых школ на час вучобы плюс кампенсацыі за адпачынак у размеры месячнага аклада. Аперацыйныя выдаткі па 5 руб. на аднаго малапісьменнага ў навучальны год.

### 6. Вячэрнія школы

а) Зарплата педперсанала — адна стаўка настаўніка няпоўна-сярэдняй школы на клас.

б) За загадванне $^{1}/_{6}$ стаўкі на клас.

в) Адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі па 250 руб. на клас.

### 7. Сельскія дамы соцкультуры

1. Штат адна адзінка.
2. Спец. аперацыйныя выдаткі (папаўненне бібліятэк) 800 руб.

### 8. Раённыя дамы соцкультуры

1. Штат 3 адзінкі — загадчык, бібліятэкар і тэх-працаўнік.
2. Адміністрацыйна - гаспадарчыя выдаткі—750 руб.
3. Набыццё інвентара і абсталявання—500 руб.
4. Літаратура—1500 руб.
5. Перасовачна-бібліятэчны фонд на раён і інш мерапрыемствы—1000 руб.

### 9. Выдаткі па піонеруху

а) Выдаткі на піонеррух вылічваецца па зацверджаных штатах і стаўках ЦСПСБ за 1934 г.

Вымернікі складзены згодна прадугледжаных па каштарысу сум і ўзгодненых з Наркамфінам БССР.

---

## Глумачэнне да каштарыса Дзяржбюджэта на 1935 г.

У дадатак да дасланага Вам каштарыса па Дзяржбюджэту на 1935 г. растлумачваецца:

1. Стаўкі зарплаты адміністрацыйна-тэхнічнаму і абслугоўваючаму персаналу, паказаныя ў штатных раскладах на 1935 г., далучаных да каштарыса, з'яўляюцца выключна разліковымі для вылічэння фонда зарплаты адміністрацыйна-абслугоўваючага персанала, і выплачваць зарплату належыць толькі адпаведна стаўкам, вызначаным у пастановах ЦСПСБ за 21-е верасня 1933 г. і снежань месяц 1933 г. і зменам згодна схем 2, 3 і 1, дасланых Вам з тарыфнай згодай аб падцягненні зарплаты нізка-аплачваемым групам рабочых і служачых ад 11/VI—1934 г.

Надбаўка, з прычыны адмены

картачнай сістэмы, уведзеная з 1/I—35 г. у стаўкі не ўключаецца і выплачваецца адпаведна загада Наркомасветы за № 64.

2 Катэгарычна забараняецца павелічэнне зарплаты работнікам звыш паказаных ставак у схемах і звыш ставак, якія існавалі да 1/XII—34 г. У выпадку, калі па штатнаму раскладу і прадугледжаны большыя стаўкі, чым паказана ў схемах і фактычна існуючыя, ужываць іх не дазваляецца

3. Педперсанал аплачваецца выключна згодна стаўкам і нормам, вызначаным у пастанове Наркомпрацы СССР за № 38 ад 7-га лютага 1931 г.

Надбаўкі да зарплаты з прычыны адмены картачнай сістэмы з 1/I—1935 г. выплачваюцца ў тым-жа парадку, як адміністрацыйна-абслугоўваючаму персаналу, згодна загада па НКАсветы за № 64.

4. Бібліятэчныя работнікі аплачваюцца згодна існуючаму палажэнню аб бібліятэчных работніках, незалежна ад ставак, паказаных у штатных раскладах.

5. Стаўкі стыпендыі паказаны ў табліцах „Разлік стыпендыяльнага фонда", з'яўляюцца выключна разліковымі для вылічэння стыпендыяльнага фонда Стыпендыі належыць уплачваць з улікам усіх надбавак, апрача надбаўкі да стыпендыі, уведзенай з 1/I—1935 г. з прычыны адмены картачнай сістэмы, у наступных размерах на аднаго стыпендыята:

| | I КУРС | | II КУРС | | III КУРС | | IV КУРС | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Нарм. пасп. | Высок пасп. | Нарм. пасп. | Высок пасп. | Нарм. пасп. | Высок пасп. | Нарм. пасп. | Высок пасп. |
| В Н У | 81 | 91 | 91 | 101 | 101 | 120 | 120 | 130 |
| Тэхнікумы | 48 | 58 | 53 | 63 | 58 | 68 | 63 | 78 |
| Рабфакі | 53 | 63 | 53 | 63 | 53 | 63 | 53 | 63 |

Надбаўка да стыпендыі з прычыны адмены картачнай сістэмы, уведзеная з 1/I—1935 г., выплачваецца ўсім стыпендыятам, не ў залежнасці ад стаўкі стыпендыі паспяховасці, а па нормах, прадугледжаных загадам па НКА № 66.

6. Інструктары вытворчага навучання па тэхнікумах выключаны са склада адм. абслугоўваючага персанала і павінны аплачвацца як пед. персанал—пагадзінна Прычым, у сувязі з тым, што група для вытворчага навучання ў майстэрнях павінна падзяляцца на две часткі, гадзіны „працы" па навучальнаму плану прадугледжаны для аплаты па каштарысу ў двайным памеры

7. Катэгарычна забараняецца павышэнне колькасці адм. абслуг. персанала звыш прадугледжанага па штатнаму раскладу.

8. У ведамасцях на выплату зарплаты і стыпендыі сумы надбавак, уведзеныя з 1/I—1935 г. у сувязі з адменай картачнай сістэмы, павінны вылучацца ў асобную графу, незалежна ад стаўкі зарплаты ці стыпендыі.

9. Катэгарычна папярэджваюцца ўсе дырэктары і рахунковыя працаўнікі, што за дапушчэнне перавыдатку па фондах зарплаты і стыпендыі, за парушэнне зацверджаных штатаў і ставак віноўныя будуць прыцягнуты да стражайшай адказнасці

*Нам. Наркома Асветы БССР— Ляшчынскі.*

*Кіраўнік фінгрупы НКА БССР— Бунімовіч.*

---

Зацверджана нам. наркома асветы т. Ляшчынскім па ўзгадненню з сакратаром ЦК ЛКСМБ т. Стукалавым.

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб вучнёўскіх арганізацыях у пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школе

### І. Аб задачах і кіраўніцтве работаю вучнёўскіх арганізацый у школе

1. У інтарэсах садзейнічання рабоце школы па павышэнню якасці навучання і комуністычнага выхавання дзяцей, для лепшай арганізацыі вучняў унутры школы, узмацнення дысцыпліны, развіцця ў вучняў ініцыятывы, самадзейнасці, свядомых адносін да вучэбнай і грамадскай работы, у школах ствараюцца вучнёўскія арганізацыі.

2. Дырэктар (загадчык) школы, класны кіраўнік (у класе) ажыццяўляе уплыў і кіраўніцтва вучнёўскімі арганізацыямі, ні ў якім разе не падаўляючы ініцыятыву вучняў, усяляк разгортваючы іх самадзейнасць і высоўваючы перад апошнімі вядучую ролю комсамольскіх і піонерскіх арганізацый, аказваючы штодзённую практычную дапамогу вучнёўскім арганізацыям у іх рабоце. Дырэктар (загадчык) школы робіць справаздачу за работу вучнёўскіх арганізацый перад органамі Наркомасветы.

3. Комсамольская арганізацыя ў школе, з'яўляючыся важаком і арганізатарам вучнёўскай моладзі, ажыццяўляе свой уплыў і штодзённае кіраўніцтва вучнёўскімі арганізацыямі праз выбарных у іх комсамольцаў і піонераў.

4. Уся работа вучнёўскіх арганізацый праводзіцца ў школе ва ўстаноўлены час, у адпаведнасці з унутраным распарадкам школы.

### ІІ. Арганізацыйныя формы і змест работы школьных і класных вучнёўскіх арганізацый

#### А Пачатковая школа

Ніякія камітэты вучняў у пачатковай школе не ствараюцца. Уся работа па арганізацыі вучняў у пачатковай школе абмяжоўваецца высоўваннем настаўнікам чарговых дзяжурных з вучняў для правядзення пад яго кіраўніцтвам, прыкладна, наступных работ:

а) нагляданне за чыстатой сваіх таварышоў;

б) вядзенне працецйшага календара пагоды;

в) клопаты аб чыстаце класа, класнай мэблі, вучэбнага

абстлявання і захаванні падручнікі школьнай маёмасці;

г) дапамога настаўніку ў раздачы вучням да ўрокаў пісьмовых прылад, вучэбных дапаможнікаў і інш;

д) догляд за жывым кутком у класе і дапамога настаўніку ў азеляненні класа;

е) арганізацыю, зборку і выраб прасцейшых наглядных дапаможнікаў для класных заняткаў (малюнкі, лічыльныя палачкі і т. д.);

ж) выкананне асобных даручэнняў настаўніка пры арганізацыі прагулак, экскурсій і дапамога яму ў арганізацыі гульняў, забаў у час адпачынку;

з) падрыхтоўка да школьных ранішнікаў і рэвалюцыйных свят.

У 3—4 класах вучань прывучаецца да калектыўнага выканання невялікіх работ, патрабуючых падзелу працы і разлічаных ад 3-х да 5-ці дзён.

Па меры неабходнасці ў 4-м класе настаўнік 1 раз у месяц праводзіць спецыяльныя сходы (працяжнасцю не больш як $^1/_2$ гадзіны) вучняў свайго класа, прысвечаныя пытанню палепшання работы класа ў цэлым і асобных вучняў.

**Б. Няпоўная сярэдняя школа і 5—7 класы сярэдняй школы**

**1. Класныя арганізацыі**

У старшых класах няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ (5—6—7 кл.) для абгаварэння і рашэння асобных пытанняў жыцця і работы калектыва вучняў данага класа праводзяцца не часцей аднаго раза ў месяц агульны сход вучняў.

Агульныя сходы праводзяцца старшынёю з вучняў у прысутнасці класнага кіраўніка і пры яго непасрэднай дапамозе.

Для арганізацыі вучнёўскай самадзейнасці, для стварэння ў класе дружаскай, таварыскай абстаноўкі агульны сход вучняў класа выбірае вучнёўскага арганізатара класа на тэрмін не больш 3-х месяцаў.

Вучнёўскі арганізатар класа працуе пад кіраўніцтвам вучкома і пры актыўнай дапамозе класнага кіраўніка.

Зместам работы вучнёўскага арганізатара класа з'яўляецца:

а) арганізацыя дзяжурстваў вучняў у класе;

б) арганізацыя вучняў для дапамогі настаўнікам у забеспячэнні ўрока нагляднымі дапаможнікамі;

в) дапамога настаўніку ў арганізацыі гульняў, прагулак і спартыўных забаў;

г) арганізацыя ўдзелу вучняў у школьных масавых мерапрыемствах (мастацкія пастаноўкі, рэвалюцыйныя святы і інш.).

**2. Школьныя арганізацыі.**

Адзін раз у чверць навучальнага года праводзяцца агульныя сходы вучняў 5-7 класаў.

Пры наяўнасці ў класах (5-7) больш 300 вучняў агульныя сходы замяняюцца канферэнцыямі.

На агульных сходах абмяркоўваюцца пытанні вучобы, дысцыпліны вучняў і работы вучнёўскіх арганізацый. У яркай і цікавай форме, даступнай разуменню вучняў, праводзіцца азнаямленне іх з важнейшымі падзеямі грамадска-палітычнага жыцця краіны

Агульны сход вучняў 5—7 класаў у пачатку навучальнага года выбірае з свайго складу вучнёўскі камітэт (вучком) з 5 ці 7 чалавек.

Агульныя сходы праводзяцца вучкомам у прысутнасці дырэктара школы ці яго намесніка і пры іх актыўнай дапамозе.

Вучком выбірае з свайго складу старшыню і арганізатара культурна-масавай работы. Астатнія члены вучкома працуюць па асобных заданнях. Вучком выбіраецца два разы ў год—у пачатку верасня і ў студзені.

Задачай вучкома з'яўляецца—напрамак і кіраўніцтва работай вучнёўскіх арганізатараў класаў.

У рабоце вучкома абавязковы удзел прымаюць: дырэктар школы, сакратар комсамольскай арганізацыі і піонерважаты.

**Увага**: У школах, разгортваючыхся ў няпоўныя сярэднія школы і маючых толькі 5-ы клас—вучкомы не ствараюцца.

### В. Сярэдняя школа

Асноўнай задачай вучнёўскіх арганізацый 8—9—10 класаў павінна быць барацьба пад кіраўніцтвам комсамола за комуністычнае выхаванне вучняў, за пашырэння палітычнага кругавіду вучняў, за вывучэння імі асноўных прац Маркса - Энгельса - Леніна-Сталіна і далейшае ўмацавання і паглыбленне ведаў па асобных дысцыплінах Усямерна змагаючыся супроць усялякіх класававарожых уплываў, хуліганства, антыграмадскіх учынкаў і т. д., вучнёўскія арганізацыі павінны дапамагаць комсамольскім арганізацыям школы выхоўваць вучняў у духу беззаветнай адданасці партыі і соцыялістычнай радзіме

У старшых класах сярэдняй школы (8-9 10 класы) адзін раз у месяц праводзяцца агульныя сходы вучняў

Для арганізацыі і кіраўніцтва пазакласнай работай вучняў агульныя сходы класа выбіраюць вучнёўскага старасту класа.

Вучнёўскі стараста класа працуе пад кіраўніцтвам старастата.

Зместам работы старастата з'яўляецца:

а) арганізацыя дзяжурстваў вучняў у класе і габінетах;

б) уцягнення вучняў у работу прадметных гурткоў (матэматычных, літаратурных і т. д.) і выданне спецыяльных часопісаў;

в) уцягнення вучняў у работу бібліятэк і ДТС;

г) арганізацыя наведвання тэатраў, лекцый, музеяў, выставак, канцэртаў;

д) арганізацыя мастацкіх пастановак, дакладаў і выставак у школе і на прадпрыемствах;

е) уцягненне вучняў ў фізкультурныя гурткі і здачу норм на „Варашылаўскага стралка“, „ГПА“, „ГСА“, арганізацыя фізкультурных спаборніцтваў і свят;

ж) устанаўленне сувязі з часцямі Чырвонай арміі;

з) дапамога падшэфнай школе і работа ў добраахвотных таварыствах;

і) арганізацыя соцспаборніцтва паміж класамі і ўнутры іх паміж асобнымі вучнямі;

2. Адзін раз у чверць навучальнага года праводзяцца агульныя сходы вучняў. Сходы праводзяца асобна для вучняў 5—7—8—10 класаў.

На агульных сходах 8—10 класаў абмяркоўваецца пытанне работы старастата ў цэлым і заслухоўваюцца ў парадку інфармацыі паведамленні дырэктара школы і заг. навучальнай часткі аб рабоце школы.

Для арганізацыі работы вучняў 8—10 класаў выбіраецца старастат у колькасці 5—7 чалавек. Старастат напраўляе і кіруе ра-

ботай вучнёўскіх старастаў 8—10 класаў.

Старастат вылучае з свайго складу старшыню і зацвярджае арганізатараў культурна-масавай і бытавой работы.

Для ўвязкі работы вучкома (5-7 класаў) з работай старастата ў склад старастата ўваходзіць старшыня вучкома 5—7 класаў.

Старастат можа прыцягваць да сваёй работы асобных вучняў.

У рабоце старастата прымае абвязковы ўдзел дырэктар школы і сакратар комсамольскай арганізацыі.

УВАГА. У школах, разгортваючыхся ў сярэднія школы і маючых толькі 8 я класы, старастаты не ствараюцца.

*Сакратар ЦК ЛКСМБ Стукалаў.*

*Нам. Наркома Асветы БССР Ляшчынскі.*

---

Зацвярджаю: Народны камісар асветы ЧАРНУШЭВІЧ

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб вучнёўскіх бібліятэках у пачатковай школе, НСШ і СШ

### І. Задачы вучнёўскіх школьных бібліятэк

Школьная вучнёўская бібліятэка, як неабходная вучэбна-выхаваўчая ўстанова пры кожнай школе, мае наступныя галоўныя задачы:

а) Дапамагчы школе навучыць вучняў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы самастойна і сістэматычна карыстацца кнігай, газетай, часопісам для паглыблення і пашырэння ведаў, даваемых вучэбным курсам.

б) Дапамагчы вучням атрымліваць з прачытаных кніг веды для практычных работ, для задавальнення здаровых імкненняў і творчай дзейнасці.

в) Уплываць на развіццё і пашырэнне агульнага кругавіду вучняў, выхаваць у іх літаратурна мастацкі густ, любоў да кнігі, крытычныя адносіны да прачытанага.

г) Выхаваць навыкі беражлівых адносін да кнігі, як да сацыялістычнай маёмасці.

д) Навучыць вучняў карыстацца бібліятэкай.

### ІІ. Работа вучнёўскай бібліятэкі

1: Вучнёўская школьная бібліятэка вядзе работу ў вызначаныя дні і гадзіны па раскладу, зацверджанаму дырэктарам (загадчыкам, і па правілах, выпрацаваных на аснове данага палажэння ў адпаведнасці з планам работы школы.

2. Агульна-вытворчы план работы бібліятэкі выпрацоўваецца на нарадах з настаўнікамі і зацвярджаецца дырэктарам (загадчыкам) школы. У гадавым плане трэба прадугледзець наступныя віды работ бібліятэкі: па абанементу, па чытальні, работу з актывам, работу з бацькамі і масавую работу.

а) У работу па абанементу ўваходзіць: выдача кніг на дом, вывучэнне інтарэсаў чытачоў, гутаркі аб прачытаным.

б) У работу чытальні ўваходзіць: выдача кніг, газет і часопісаў для чытання, садзейнічанне ў карыстанні імі і дапамога

ў карыстанні слоўнікам і даведнікам, падбор і ўказанне матэрыялаў для самастойных работ у сувязі з прапрацоўваемымі праграмі, дапамога ў рабоце гурткоў і любіцеляў чытання.

в) У работу бібліятэкара з актывам уваходзіць інструктаж актыва, кіраўніцтва гурткавымі заняткамі і правядзенне гутарак.

**Увага**: Актыў складаецца з прадстаўнікоў ад кожнага класа, пачынаючы з 3-га. Прадстаўнік атрымлівае рэкамендацыйны спіс кніжак і даводзіць гэты спіс да ведама ўсіх вучняў, сочыць за своечасовай здачай кніжак і беражлівымі адносінамі да іх, дапамагае бібліятэкару пры выдачы кніжак.

г) У работу бібліятэкі з бацькамі уваходзіць: пастаноўка дакладаў і справаздач, кансультацый па пытаннях дзіцячага чытання на сходах бацькоў, індывідуальныя кансультацыі; гутаркі, чыткі ў чырвоных кутках жактаў, клубаў, калгасаў, звязаных з данай школай.

д) План работы бібліятэкі павінен прадугледзець масавую работу з кнігай, газетай і часопісам, арганізацыю бібліятэчных заняткаў шляхам чытак, расказвання, лекцый, дэкламацый і вечароў кнігі. Гэта праца павінна быць цесна ўвязана з праграмамі Наркомасветы і планам пазашкольнай работы.

**Увага:** Бібліятэчныя заняткі ўключаюць азнаямленне вучняў з арганізацыяй і значэннем бібліятэкі, правіламі карыстання бібліятэкай і кнігай, з характарыстыкай новых кніг і часопісаў, якія паступаюць у бібліятэку.

3. У дапамогу працы бібліятэкі акрамя педагогаў і прадстаўнікоў ад дзяцей прыцягваюцца бацькі, прадстаўнікі шэфаў і другія грамадскія арганізацыі. Бібліятэка перыядычна склікае агульныя сходы для абгаварэння арганізацыйных пытанняў, разгляду гадавога плана, плана камплектавання кніг і т д. Прынятыя пастановы зацвярджаюцца дырэктарам (загадчыкам школы).

## III. Правы і абавязкі бібліятэкара

1. На пасаду бібліятэкара прызначаюцца асобы, маючыя педагагічную падрыхтоўку.

2. Бібліятэкар уваходзіць у склад педагагічнага калектыва школы.

3. Бібліятэкар падпарадкоўваецца дырэктару (загадчыку) і заг. навучальнай часткі школы і вядзе работу ў цесным кантакце з выкладчыкамі, карыстаючыся іх ўказаннямі пры папаўненні бібліятэкі кнігамі і пры выдачы кніг школьнікам.

4. Бібліятэкар камплектуе вучнёўскую школьную бібліятэку, выходзячы з патрэбнасці школы ў папаўненні матэрыяламі для пазашкольнага чытання ў дапаўненне праграмам і на падставе здаровых запатрабаванняў і інтарэсаў вучняў. Адміністрацыя школы адказвае за камплектаванне школьнай бібліятэкі добраякаснай, адпавядаючай школьнаму ўзросту літаратурай.

5. Бібліятэкар абавязан уцягваць у сістэматычнае чытанне ўсіх вучняў школы і садзейнічаць ім у падборы неабходнай літаратуры ў адпаведнасці з узростам і запатрабаваннямі, карыстаючыся ўказаннямі выкладчыкаў і сваімі асабістымі назіраннямі.

6. Бібліятэка вядзе сістэматычную прапаганду кнігі пры дапамозе выставак, рэкамендацыйных спісаў, галасных чытак, дакладаў, выступленняў у школьнай газеце, выхавання ў дзяцей

беражлівых адносін да кнігі, як да соцыялістычнай маёмасці.

7. Бібліятэкар вядзе бягучую работу па выдачы кніжак на дом ці для чытання ў чытальні, арганізуе ўлік выданых кніг па адпаведных разделах.

8 Бібліятэкар складае каталагі, вядзя інвентар бібліятэкі, бягучую перапіску і справаздачнасць, вядзе бібліятэчную статыстыку па ўстаноўленай форме.

9. Бібліятэкар нясе адказнасць перад дырэктарам (загадчыкам) школы за захаванне маёмасці бібліятэкі.

10 Бібліятэкар складае справаздачу аб рабоце бібліятэк і па зацверджанні дырэктарам (загадчыкам) пасылае ў АНА.

### IV. Памяшканне і абсталяванне бібліятэкі

1. Школьная бібліятэка павінна мець асобнае памяшканне для захавання і выдачы кніжак : пакой для чытальні.

Пры адсутнічанні неабходнага памяшкання кнігі захоўваюцца ў зачыненых, прыстасаваных для гэтай мэты шафах.

2. У бібліятэцы павінны быць шафы, або паліцы для кніг, стол для працы, прылавак, яшчыкі для каталага, інвентарная кніга. карткі для запісаў чытачоў, вітрыны для выставак.

3. У чытальні павінны быць сталы, крэслы ці скамейкі для наведвальнікаў, стол для работніка чытальні, яшчык з карткамі для рэгістрацыі.

### V. Бюджэт бібліятэкі

1. Школьная вучнёўская бібліятэка павінна мець спецыяльныя асігнаванні ў агульным каштарысе школы.

У гэты раздзел уключаюцца сродкі: а) на набыццё кніг, часопісаў, газет і інш.; б) на гаспадарчыя патрэбы бібліятэкі: пераплёт кніг і рамонт інвентара, на набыццё прадметаў бібліятэчнай тэхнікі (карткі), на масавую работу з чытачамі.

Акрамя сродкаў, адпушчаных па бюджэту на бібліятэку, школа прыцягвае сродкі для бібліятэк ад шэфаў, бацькоў, прафсаюзаў і т. д.

Нач. школьнага
ўпраўлення НКА БССР
**Лозбень**

---

## Аб парадку із'яцця кніг з бібліятэк

За апошні час учасціліся запытанні з месц аб парадку із'яцця кніг з бібліятэк. Наркомасветы прапануе кіравацца ў гэтым пытанні наступным:

1. Масавыя чысткі бібліятэк забараняюцца.

2. У із'яцці кніг з бібліятэк неабходна кіравацца толькі ўказаннямі Галоўліта і Бібліятэчнага ўпраўлення.

3. Усе спіскі па із'яццю кніг з бібліятэк без подпісі Галоўліта ці Бібліятэчнага ўпраўлення— ануліруюцца.

Катэгарычна забараняецца для із'яцця кніг з бібліятэк карыстацца спіскамі ОГИЗ'а, ДВБ і БАКТ'а па із'яццю кніг з кніжных крам у макулатуру.

4. Калі работнік бібліятэкі ці работнік АНА лічыць, што тую ці іншую кнігу з бібліятэкі неабходна із'яць, ён павінен аб гэтым давесці да ведама праз Гар. і РайАНА, Бібліятэчнае ўпраў-

ленне НКАсвет з указаннем аўтара кнігі, назвы, выдавецтва і года выдання і толькі пасля ўказання Бібліятэчнага ўпраўлення кніга можа быць із'ята.

Такі-ж парадак ўстанаўліваецца і для спісання кніг у макулатуру па ўстарэласці.

5. НКАсветы папярэджвае работнікаў АНА і бібліятэкараў, што ад іх патрабуецца ўзмацненне класавай пільнасці на бібліятэчным участку, накіраванай раней за ўсё на ачышчэнне бібліятэк ад контррэволюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай і нацдэмаўскай літаратуры, рашучай барацьбы з усякага роду класава-варожымі вылазкамі ў бібліятэчнай рабоце і прытупленнем рэволюцыйнай пільнасці, мабілізацыі работнікаў бібліятэчнага фронта на рашучае разаблачэнне і ачышчэнне сваіх радоў ад класава-варожых элементаў, пралезшых у бібліятэкі.

Мерапрыемствамі, накіраванымі на вырашэнне гэтых задач, павінны быць:

а) Поўны ахоп палітычна-выхаваўчай і масавай работай усіх работнікаў бібліятэк, у асабліваасці гурткамі марксісцка-ленінскай вучобы па дагаворанасці з РК КП(б)Б.

б) Арганізацыя сістэматычнай прапрацоўкі пытанняў бягучай палітыкі на сходах бібліятэчных работнікаў.

в) Арганізацыя праз самаадукацыю, гурткі, курсы, пастаноўку асобных дакладаў—павышэння кваліфікацыі бібліятэкараў. Абавязковая здача кожным бібліятэкарам бібмінімума. Стварэнне пры гарадскіх цэнтральных бібліятэках рэгулярных нарад бібліятэчных работнікаў з пастаноўкай інфармацыйных дакладаў аб уноў выданых кнігах і крытыка-бібліяграфічных аглядаў па асобных галінах літаратуры.

г) Рашучае ўзмацненне работы ў бібліятэках па прапагандзе марксіцка-ленінска-сталінскай літаратуры (выстаўкі, рэкамендацыйныя спісы, агляды літаратуры, гучныя чыткі, пашырэнне падпіскі на партыйны перыядычны друк).

6. Аддзелы народнай асветы павінны рашуча пакончыць з існуючай на мясцах недаацэнкай бібліятэчнай справы, арганізаваць сістэматычны кантроль над работай бібліятэк у раёне ўсіх сістэм і ведамстваў, удзяляючы асаблівую ўвагу падбору і праверцы людзей на гэтым участку комуністычнага выхавання, памятаючы тое палажэнне, што бібліятэка з'яўляецца астрэйшым аруддзем класавай барацьбы і гэта аруддзе павінна знаходзіцца ў руках людзей, палітычна-падрыхтаваных, добра праверaных, актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

Народны камісар
Асветы БССР **Чарнушэвіч.**

---

Зацвярджаю: Нам. наркома асветы БССР ЛЯШЧЫНСКІ

# ПАЛАЖЭННЕ
## аб бібліятэчных інспектарах раённых і гарадскіх аддзелаў народнай асветы

1. Пастановай ЦВК СССР ад 27/III—34 г. «Аб бібліятэчнай справе ў СССР» у мэтах паляпшэння пастаноўкі бібліятэчнай справы і кіраўніцтва ёю ў гарадскіх і раённых аддзелах народнай асветы ўводзіцца штатная пасада бібліятэчнага інспектара.

Задачай бібліятэчнага інспектара з'яўляецца палітычнае, метадычнае і арганізацыйна - гаспадарчае кіраўніцтва бібліятэчнай работай у раёне.

Бібліятэчны інспектар нясе адказнасць за выкананне ўсіх законаў і пастаноў кіруючых органаў па бібліятэчнай рабоце ў раёне.

2. У круг дзейнасці бібліятэчнага інспектара ўваходзяць наступныя абавязкі:

а) Планаванне і арганізацыя бібліятэчнай сеткі ў раёне (горадзе).

б) Разгляд каштарысаў і ўдзел у размеркаванні бюджэтных асігнаванняў для бібліятэк АНА; кантроль за правільнасцю скарыстання сродкаў, якія асігнуюцца на бібліятэчную справу; прынядце мер да своечасовага і рэгулярнага выдаткавання бібліятэкамі сродкаў; садзейнічанне ў мабілізацыі сродкаў мясцовага насельніцтва і арганізацыі на ўмацаванне бібліятэчнай работы.

в) Кіраўніцтва камплектаваннем бібліятэк свайго раёна праз цэнтральны бібліятэчны калектар і мясцовыя аддзяленні выдавецтваў; арганізацыя сістэматычнага снабжэння бібліятэк бібліяграфічнымі матэрыяламі.

г) Арганізацыя абслугоўвання кнігай вясковага і гарадскога насельніцтва праз стацыянарныя бібліятэкі і праз сістэму перасовачных бібліятэк у калгасах, соўгасах, хатах-чытальнях, прадпрыемствах і па месцу жыхарства.

д) Арганізацыя ў бібліятэках работы ў дапамогу самаадукацыі.

е) Кантроль за выкананнем бібліятэкамі правіл захавання кніжнага фонда, утрымання ў парадку бібліятэчных памяшканняў, уліку і справаздачнасці.

ж) Рэгістрацыя ўноў арганізаваных бібліятэк усіх ведамстваў, збіранне статыстычных даных аб бібліятэчнай рабоце і поўных звестак аб усіх бібліятэках свайго раёна (горада).

з) Арганізацыя метадычнай дапамогі ўсім бібліятэкам раёна шляхам склікання нарад бібліятэкараў з мэтай абмену станоўчым вопытам лепшых бібліятэк, рассылкі бібліятэкарам метадычных матэрыялаў, атрымліваемых ад бібліятэчнага ўпраўлення НКА і метадсектара Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна.

У гэтай рабоце райбібінспектар апіраецца на раённую бібліятэку.

**Увага:** Бібліятэчны інспектар для ажыццяўлення метадычнага кіраўніцтва прыцягвае да работы найбольш вопытных работнікаў бібліятэк, арганізуе ў раённай бібліятэцы метадычны куток.

і) Падбор і размеркаванне па сетцы бібліятэк НКА бібліятэчных работнікаў.

к) Удзел у рабоце кваліфікацыйнай камісіі, арганізацыі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі бібліятэкараў, перасоўшчыкаў і кнігանош (арганізацыя кароткатэрміновых курсаў і семінараў).

Кіраўніцтва работай метадычных нарад бібліятэкараў. Вярбоўка слухачоў на ўсебеларускія бібліятэчныя курсы, бібліятэчныя тэхнікумы і бібліятэчныя ВНУ.

л) Уцягненне партыйнай і савецкай грамадскасці ў бібліятэчную работу і шырокую прапаганду кнігі і бібліятэкі праз друк, канферэнцыі чытачоў— рабочых і калгаснікаў—і іншыя формы.

м) Сістэматычная інфармацыя заг. Гар. і РайАНА і бібліятэчнага ўпраўлення НКА аб стано-

вішчы бібліятэчнай работы ў раёне (горадзе).

н) Дзяржаўны кантроль за становішчам і работай бібліятэк усіх ведамстваў, знаходзячыхся ў раёне (за выключэннем бібліятэк Чырвонай арміі).

3. Бібліятэчныя інспектары асноўную ўвагу і большую частку свайго часу павінны ўдзяляць жывому кіраўніцтву работай бібліятэк шляхам выездаў у бібліятэкі.

4. Кандыдатуры на пасаду бібліятэчнага інспектара горада і раёна падбіраюцца Гар. і РайАНА і зацвярджаюцца НКА.

Зняцце ці перавод на другую работу бібліятэчных інспектароў без згоды на тое ў кожным асобным выпадку НКА не дапускаецца.

5. Бібліятэчныя інспектары абавязаны сістэматычна працаваць над павышэннем сваёй кваліфікацыі, ведаць усе пастановы партыі і ўрада і дырэктыўныя паказанні НКА аб бібліятэчнай справе, якія апублікоўваюцца ў бюлетэні НКА, журн. а „Красный библиотекарь“ і ўагульным друку, а таксама асноўныя інструкцыйна-метадычныя дапаможнікі па пытаннях бібліятэчнай работы.

*Нач. бібліятэчнага ўпраўлення НКА БССР Багуслаўскі.*

---

Зацвярджаю: Народны Камісар асветы БССР — Чарнушэвіч

## Часовае палажэнне аб раённай бібліятэцы

1. Для шырокага абслугоўвання кнігай і даведачна-бібліяграфічнай работай працоўных і мясцовых партыйных, совецкіх і грамадскіх арганізацый, у раённым цэнтры ўтвараецца раённая бібліятэка.

Раённая бібліятэка з'яўляецца:

а) Кнігасховам раённага значэння.

б) Цэнтрам, арганізуючым абслугоўванне перасовачнымі бібліятэкамі калгасаў і сельсоветаў (хат-чытальняў) у раёне.

в) Аснаўной базай РайАНА ў рабоце апошняга па метадычнаму кіраўніцтву вясковымі і калгаснымі бібліятэкамі ў раёне.

2. Раённая бібліятэка падпарадкавана непасрэдна Райвыканкому (РайАНА), з'яўляецца самастойнай установай з выдзеленым для яе бюджэтам.

## Змест работы раённай бібліятэкі

3. Раённая бібліятэка праводзіць наступную работу:

а) Камплектаванне, захаванне і бібліятэчную апрацоўку кніг, захаванне камплектаў раённых і цэнтральных газет;

б) Выдачу кніг на дом і ў чытальні і індывідуальным чытачам раёна.

**УВАГА:** Бібліятэка адчынена для ўсяго насельніцтва раёна, карыстанне кнігамі бясплатнае.

в) Абслугоўванне бібліятэкамі перасоўкамі насельніцтва, не ахопленага стацыянарнымі бібліятэкамі іншых ведамстваў.

г) Масавую палітыка-асветную работу з кнігай, газетай і журналам.

д) Даведачна-бібліяграфічнае абслугоўванне насельніцтва.

е) Арганізацыю самаадукацыйнай работы чытачоў.

ж) Абмен кнігамі з бібліятэкамі раёна і скарыстанне кніг Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна ў парадку міжбібліятэчнага абанемента.

з) Метадычную дапамогу вясковым бібліятэкам і бібліятэкам іншых ведамстваў.

4. Масавая палітыка-асветная работа раённай бібліятэкі ўключае:

а) Праведзенне гучных чытак кніг і газет як у бібліятэцы, так і зне бібліятэкі ў калгасах і соўгасах, у школах для дарослых, на прадпрыемствах і ў інтэрнатах з прыцягненнем да гэтай работы актыва з чытачоў і мясцовых культурных сіл.

б) Кніганошаства ў межах раённага цэнтра і бліжэйшыя калгасы і соўгасы.

в) Арганізацыю самаадукацыі насельніцтва і кіраўніцтва чытаннем, вывучэнне чытача, выстаўка кніг у бібліятэцы і па-за бібліятэкай (на сходах, канферэнцыях, нарадах і інш.). Рэкамендацыйныя спісы, плакаты).

г) Абслугоўванне кнігай масавых мерапрыемстваў, якія праводзяцца ў раённым цэнтры, лекцый, дакладаў.

д) Арганізацыя бібліятэчных вечароў, канферэнцый чытачоў, літаратурных вечароў.

5. Раённая бібліятэка ў арганізацыі бібліятэчнай гаспадаркі кіруецца формамі ўліку і мінімумам бібліятэчнай тэхнікі, зацверджанай НКА. Загадчыкі райбібліятэкі адчытваюцца перад РайАНА ва ўстаноўленыя тэрміны па ўстаноўленых формах.

## Удзел бібліятэкі ў інструкцыйна-метадычнай рабоце РайАНА

6. Раённая бібліятэка аказвае дапамогу раённаму бібліятэчнаму інспектару ў яго рабоце па лініі інструкцыйна-метадычнага кіраўніцтва сельскімі бібліятэкамі, выконваючы такія заданні як:

а) Кансультацыя і інструктаж бібліятэкараў, перасоўшчыкаў і кніганош па пытаннях пастаноўкі бібліятэчнай тэхнікі, уліку і справаздачнасці, форм і метадаў работы з кнігай сярод чытачоў, прапаганда кнігі.

б) Удзел у рабоце па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы бібліятэкараў, перасоўшчыкаў, кніганош праз курсы-нарады.

в) Выезды работнікаў бібліятэкі ў раён для дапамогі вясковым бібліятэкарам і перасоўшчыкам у пастаноўцы работы і інструктажы іх.

7. Пры буйных раённых бібліятэках павінны быць арганізаваны метадычныя габінеты; у невялікіх бібліятэках—метадычныя куткі, дзе павінен быць сабран увесь інструкцыйны матэрыял, які атрымліваецца з Бібліятэчнага ўпраўлення НКА і метадсектара Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна, а таксама дапаможнікі па бібліятэчнай справе для таго, каб сельскія і бібліятэкі іншых ведамстваў маглі-б азнаёміцца з усім гэтым матэрыялам.

## Структура раённай бібліятэкі

8. Раённая бібліятэка састаіць з наступных аддзелаў:

а) абанемент.

б) чытальня.

в) Перасовачны фонд (які ўключае дзіцячую літаратуру).

**Увага:** а) Пры адсутнасці самастойнай раённай дзіцячай бібліятэкі, пры раённай бібліятэцы павінна быць дзіцячая аддзяленне (абанемент і чытальня.

б) У раёнах са значнай колькасцю насельцтва другой нацыянальнасці ўтвараецца аддзел нацыянальнай кнігі.

9. Колькасць працаўнікоў раённай бібліятэкі ўстанаўліваецца РВК (РайАНА) у залежнасці ад аб'ёму работы данай бібліятэкі (велічыні кніжнага фонда, колькасці абслугоўваемага насельніцтва, сеткі перасовачных бібліятэк, абслугоўваемых райбібліятэкай).

10. Непасрэдную адказнасць за пастаноўку работы бібліятэкі, улік і захаванне маёмасці і кніжнага фонда нясе загадчык раённай бібліятэкі.

Загадчык раённай бібліятэкі павінен мець спецыяльныя веды ў абёме бібліятэчнага тэхнікума і практычны стаж бібліятэчнай работы не менш 3-х гадоў

11. Загадчык раённай бібліятэкі зацвярджаецца Бібліятэчным упраўленнем НКА па прадстаўленню РайАНА.

### Арганізацыя грамадскага актыва

12. Пры раённай бібліятэцы для грамадскага кантроля і дапамогі ў разгортванні работы ўтвараецца:

а) Бібліятэчны совет з прадстаўнікоў раённых арганізацый і з актыва чытачоў.

б) Гурткі садзейнічання бібліятэцы з чытачоў, працуючых на падставе палажэння, зацверджанага НКА.

### Бюджэт раённай бібліятэкі

13. Раённая бібліятэка знаходзіцца на бюджэце РайАНА, мае цвёрдую смету і забяспечваецца сродкамі на наступныя расходы:

а) Зарплату (па стаўках, устаноўленых інструкцыяй НКА і ЦП саюза працасветы ад 16/II 1934 г. аб дыферэнцыяванай аплаце працы бібліятэкараў).

б) Папаўненне кніжнага фонда, пераплёт і рамонт кніг, выпіска перыядычных выданняў.

в) Арганізацыю самаадукацыі і метадычнай работы.

г) Набыццё інвентара, рамонт памяшкання бібліятэкі.

д) Адміністрацыйна - гаспадарчыя выдаткі.

**Увага:** а) У тых выпадках, калі бібліятэка знаходзіцца ў памяшканні РДСК, бюджэт раённай бібліятэкі павінен быць самастойным ад РДСК.

б) У смеце райбібліятэкі выдаткі на дзіцячае аддзяленне ўказваюцца ў асобным раздзеле

14. Акрамя бюджэтных асігнаванняў раённая бібліятэка прыцягвае на бібліятэчную работу сродкі грамадскіх арганізацый па дагаварах з апошнімі і расходуе іх на мерапрыемствы, указаныя ў дагаварах. Справаздачнасць у выдаткаванні гэтых сродкаў вядзецца па ўстаноўленых фінансавымі органамі формах.

*Нач. бібліятэчнага ўпраўлення НКА—Багуслаўскі.*

---

## ЗАГАД № 273

### Па Народнаму Камісарыяту асветы БССР

**Менск, 17/II—1935 года**

### Аб выніках агляду падрыхтоўкі хат-чытальняў да зімы

Адзначаю, што аб'яўлены НКАсветы агляд гатоўнасці хат-чытальняў да зімы з 1/X-1934 г. і працягнуты па 15/II—35 г., па маючыхся даных НКА павысіў камплектаванне раёнаў паліт-асветінструктарамі (з 15 да 50), хат-чытальняў работнікамі, па-

лепшыў падрыхтоўку памяшканняў часткі палітасветустаноў да зімы (вывазка дроў, рамонт памяшканняў, ацяпленне, забеспячэнне лямпамі, газай; набыта некаторае абсталяванне, набыта неабходная літаратура, распачата работа гурткоў), а па раёнах: Бабруйскім, Заслаўскім, Жыткавіцкім, Жлобінскім і Уздзенскім выдзелены ўзорныя хаты-чытальні.

Па прадстаўленых данных аддзела РДСК і хат-чытальняў на аснове спецыяльных актаў, заверaных с/советамі і асабістых справаздач у НКАсветы, асобных нізавых работнікаў за належную падрыхтоўку да зімы прэміраваць

1. Першай прэміяй — Бялёўскую хату-чытальню Жыткавіцкага раёна ў суме 600 руб., у тым ліку яе загадчыка т. ДУБРОВУ—300 руб.

2. Другімі прэміямі адпаведна па 500 і 200 руб. Старцаўскую хату чытальню Бабруйскага раёна—заг. т. ЯНОВІЧ, Анусінскую хату-чытальню Заслаўскага раёна—заг. т. ШАЛКОВІЧ.

3. Трэцімі прэміямі па 400 і 150 руб.—Верацейскую хату-чытальню Дубровенскага раёна—заг. т.—Хадункін, Казулецкую хату-чытальню Бабруйскага раёна заг. т РАСОЛІН, Стальбоўскую хату-чытальню Уздзенскага раёна—заг. т ДУШЭЎСКІ-

4. Чацвертымі прэміямі па 300 і 100 руб. — Стара-Руднянскую хату-чытальню Жлобінскага раёна—заг. т. ПАШКЕВІЧ, Жываглобаўскую хату-чытальню Чырвонаслабодскага раёна — заг. т. ЛАПАТКА, Ратамскую хату-чытальню Менскага раёна—заг. т. КАЛТОВІЧ.

5. Адзначыць як лепшыя хаты-чытальні і РДСК па падрыхтоўцы да зімы: Баравіцкая хата-чытальня Бабруйскага раёна—заг. т ХАЙКМАН, Лухаўская хата-чытальня Жлобінскага раёна—заг т. ГЕНДЗІНА, Старчыцкая хата-чытальня Чырвонаслабадскага раёна—заг. т АСІПОВІЧ, Строчыцкая хата-чытальня Менскага раёна—заг. т. ЛЮТАРЭВІЧ, Пашоўская хата-чытальня Магілеўскаго раёна —заг. т. КАГАН, Вялікасліўская хата-чытальня—заг. т. РАДЗЮКЕВІЧ і Ісерская хата-чытальня—заг. т. ВІТКО—Слуцкага раёна, Пухавіцкі РДСК—заг. т. ТУМАН, Ельскі РДСК—заг. т. НЕВЯДОМСКІ.

Агляд паказаў, што побач з некаторым ажыўленнем паліт-асвет-работы, на вёсцы па раду раёнаў, агульнае становішча палітасвет-работы,якасць работы палітасвет-устаноў застаюцца яшчэ на нізкім узроўні; работа недастаткова насычана палітычным зместам, што тлумачыцца тым, што паасобнымі загадчыкамі Гар. і РайАНА (Клічаў, Расоны, Плешчаніцы, Хойнікі і інш.) недаацэньваецца палітасвет-работа (нізкая якасць работы хат-чытальняў, дрэнны падбор загадчыкаў хат-чытальняў, адсутнасць належных клопатаў і дапамогі ў палепшанні матэрыяльнага становішча палітасвет-работнікаў, адсутнасць належнага інструктажа).

Падкрэсліваю, што раёны: Суражскі, Плешчаніцкі, Дзержынскі, Лельчыцкі, Полацкі, Крупскі не ўключыліся ў агляд, не дабіліся зруху ў наладжванні палітасвет-работы, а па Клімавіцкаму раёну працягваецца сумяшчэнне загадчыка хаты-чытальні з пасадай старшынь с/совета, сельпо. нам. старшыні с/совета. Выходзячы з гэтага прапаную:

1. За працягванне ігнаравання

загада па Наркамату асветы ад 4/VI—1934 г. і 17/IX—34 г. аб ліквідацыі сумяшчэння ў хатах-чытальнях заг. Клімавіцкага РайАНА і інструктару палітасветы т. СТАРАВЫБАРНАМУ, дапусціўшым знаходжанне на пасадзе заг. хат-чытальняў Асмолавіцкай і Макавіцкай старшынь с-саветаў, Дамамерацкай—старшыні сельпо, Дубровенскай і Кісялёва-Будзянскай — нам. старшынь с/саветаў аб'явіць вымову.

Прапаную ў 3-дзённы тэрмін адстараніць паказаных загадчыкаў хат-чытальняў ад работы, падабраўшы належную замену.

2. Указаць заг. Плешчаніцкага Полацкага, Лельчыцкага Дзержынскага, Бярэзінскага, Суражскага, Ельскага РайАНА на іх зусім нездавальняючае кіраўніцтва работай хат-чытальняў і ў прыватнасці на выключна дрэнную падрыхтоўку да зімы.

3. Папярэдзіць заг. АНА і інструктароў палітасветы Жыткавіцкага, Бабруйскага, Заслаўскага, Дубровенскага, Чырвонаслабодскага, Слуцкага, Уздзенскага, Магілеўскага, Менскага, Жлобінскага, Пухавіцкага раёнаў, што пералічаныя даным загадам палітасвет установы ёсць іх першы крок па шляху да стварэння сапраўдных дамоў соцыялістычнай культуры і патрабуе ад іх далейшай настойлівай работы за поўны арганізацыйны і масавы разварот работы ўсіх палітасвет-устаноў.

4. У мэтах вывучэння вопыту палітасвет-работы іншых рэспублік і абласцей арганізаваць з 25/II па 7/III 1935 г. экскурсію ў Ленінградскую вобласць з ліку лепшых загадчыкаў хат-чытальняў.

Зацвердзіць склад экскурсантаў у ліку 6-ці загадчыкаў хат-чытальняў, работніка НКАсветы і палітасвет інстытута. Кіраўніком экскурсіі зацвердзіць т. **Казлова.**

Заслухаць на вытворчай нарадзе нач. упраўлення і заг. аддзелаў інфармацыю аб выніках экскурсіі.

Адпусціць з фонда масавых мерапрыемстваў на правядзенне экскурсіі 3000 руб., абавязаўшы персанальна т. **Казлова** прадставіць па сканчэнні экскурсіі фінансавую справаздачу.

5. Склікаць з 10/III па 20/III 1935 г. нараду-семінар інструктароў палітасвет-работы. Абавязаць т. **Голуба** прадставіць мне 20/II на зацверджанне праграму работы семінара і падрабязны разлік па ўтрыманню нарады.

6. Выклікаць на 25/II 1935 г. пяць загадчыкаў РайАНА і інструктароў палітасветы раёнаў: Клімавіцкага, Жлобінскага, Горацкага, Шклоўскага, Плешчаніцкага з дакладамі аб кіраўніцтве імі палітасвет-работай.

7. Зацвердзіць спіс выклікаў раёнаў з дакладамі ў НКА па выніках вытворчага паходу імя VII з'езда саветаў.

8. Абавязаць заг. аддзела РДСК і хат-чытальняў (**т. Голуба**) падрыхтаваць і правесці куставыя нарады загадчыкаў хат-чытальняў і РДСК па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і ўдзелу ў літаратурным паходзе, у тэрмін з 20/III па 1/IV—35 г.

Заслухаць на куставых нарадах вынікі экскурсіі па Ленінградскай вобласці.

9. Аддзелу РДСК і хат-чытальняў (т. Голубу) намеціць на 1935 год план сістэматычнага заслухоўвання справаздач-

насці палітасветработнікаў у НКА з папярэдняй праверкай работнікамі НКА работы на месцы.

10. Прапанаваць адказнаму рэдактару „За комуністычнае выхаванне“ адводзіць не менш 10 проц. зместу кожнага нумара журнала для асвятлення пытанняў тэорыі і практыкі палітасвет-работы.

11. Абавязаць усіх заг. Гар. і РайАНА, інструктароў палітасветы склікаць не пазней 25/II—35 г. нарады заг. хат-чытальняў, на якіх распрацаваць даны загад і мерапрыемствы па ўдзелу палітасветустаноў у падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы.

12. Заг. Гар. і РайАНА тэрмінова праверыць работу палітасвет-устаноў па літаратурнаму паходу, даць ім канкрэтныя паказанні і арганізаваць перасовачны абмен літаратуры ў месцы, дзе яе не нехапае.

13. Зварочваю ўвагу ўсіх заг. Гар. і РайАНА, інструктароў палітасветы, заг. РДСК і хат-чытальняў, што асноўнай задачай зараз з'яўляецца сістэматычнае паляпшэнне якасці работы палітасвет-устаноў шляхам рэгулярнай работы гурткоў (палітычны, агразоатэхнічны, агульнаадукацыйны, літаратурны, драматычны і музыкальны), пастаноўкі лекцыйнай работы, выставачнай, экскурсійнай, агітацыйна-масавай.

14. Рашаючай умовай палепшання работы ўсёй палітасветсеткі з'яўляецца—павышэнне інструктажа палітасветработнікаў і праверка выканання праз нарады, семінары, праверку работы, заслухоўванне справаздач, распрацоўку метадычных лістоў, разварот метадычнай работы РДСК.

Абавязваю загадчыкаў РайАНА правяраць штомесячна персанальна работу не менш, чым 2-х хат-чытальняў і дазаць указанні ў іх рабоце.

15. Указваючы загадчыкам Гар. і РайАНА на адсутнасць належнай барацьбы за кадры палітасвет-работнікаў, зусім нізкую якасць набіраемых кадраў, на недастатковую класавую пільнасць у падборы кадраў, у выніку чаго ёсць выпадкі прыёму на работу аферыстаў (Чашнікі), ствараецца вялікая цякучасць палітасветкадраў і пераход на другую работу (Полацк—Патура, Тарасевіч, Клічаў—3 чал. перакінуты на іншую работу), прапаную звярнуць выключную ўвагу на якасць падбіраемых кадраў, на клопаты аб працуючых і аказанне ім канкрэтнай дапамогі ў палепшанні матэрыяльнага становішча.

16. Асноўнай палітычнай задачай палітасвет-устаноў (хатычытальні, РДСК, клубы, чырвоныя куткі) у даны момант з'яўляецца ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні веснавой сяўбы. Для правядзення гэтай работы абавязваю заг. РайАНА арганізаваць прапрацоўку пастаноў VII і XI з'ездаў советаў, другога з'езда калгаснікаў-ударнікаў, правядзенне лекцый, дакладаў і гутарак, калектыўных праверак гатоўнасці да веснавой сяўбы, усіленне работы агратэхгурткоў, наладжванне работы сценгазет, дошкі тэмпаў, выставак, вывешванне плакатаў, лозунгаў, абслугоўванне культурна-масавай работай рамонтных і палявых брыгад.

17. Абавязваю заг. Гар. і РайАНА, дырэктароў школ арганізаваць у парадку грамад-

скай работы дапамогу настаўніцтва хатам чытальням і ДСК у палепшанні зместу работы шляхам кіраўніцтва гурткамі, асобнымі галінамі работы і т. д.

18. Работу палітасвет-устаноў арганізаваць на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва на лепшае абслугоўванне і якаснае правядзенне веснавой сяўбы паміж асвет-установамі і паміж асобнымі палітасвет-работнікамі.

Нам. Наркома
Асветы БССР
*Ляшчынскі.*



Адказны рэдактар Багуслаўскі.

Галоўлітбел № 3052. 2¼ друк. аркуш. 8.000 экз.
Друкарня „Комінтэрн“. Гор. Віцебск. Зак. № 1987.